


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 22 (3238) Год LXIII Беласток, 03 чэрвеня 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




# «Белавежа» жыве словам

Пра значэнне слова, чытальніцтва ды феномен Літаратурнага аб'яднання «Белавежа» з яго старшынёю **Янам Чыквіным** размаўляе Уршуля Шубзда.

**— Першапачаткова «Белавежа» была літаратурна-мастацкім аб'яднаннем. Сярод заснавальнікаў былі і мастакі.**

— Так было на самым пачатку. Магчыма гэта быў ухіл у бок Яшы Бурша, які быў жывапісцам. Ён не скрываў гэтага перад нікім, адкрыта гаварыў, што ён займаецца і малярствам, і паэзіяй. Тут, у Беластоку, былі жывапісцы, якія былі нефармальна, так як і ўсе «белавежцы» ніколі не мелі таго, што называецца легітымацыяй. Членскіх білетаў не было. Хто хоча прыходзіць, маніфестуе сябе як саўдзельнік творчай літаратурна-мастацкай групы. Гэта было вельмі карысна, вельмі натуральна, што маладыя людзі адгукаліся на заклік Валкавыцкага: прыходзьце, маніфестуйце свае творчыя здольнасці. І таму так было, што на пачатку былі і мастакі ў групе «белавежцаў».

**— Яша Бурш паходзіў з Беларусі, але гэта беларусы Падляшша стварылі аб'яднанне «Белавежа»?**

— Несумненна. Увогуле літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» ўзнікла як арганізацыя беларусаў Польшчы. Пасля вайны, яшчэ і ў першай палове 50-х гадоў, рэпатрыянты вярталіся з Беларусі, падаваліся палякамі, але па-польску не гаварылі. Тым не менш на Беласточчыне беларусаў было шмат і гэта ў 50-х гадах давала магчымасць стварыць беларускую літаратурную арганізацыю ў Польшчы. Хоць не было статуту ніякага, не было рэгламенту хто як мае пісаць... Былі спрэчкі ўнутры арганізацыі, калі мы сустракаліся. Былі спрэчкі творчага характару — якія вершы, каму яны пішуцца, хто нас чытае... А можа палітычную тэматыку выносіць часцей, а можа прыродазнаўчую, а можа паказваць патрыятызм да сваёй малой радзімы? Такія спрэчкі былі, але яны не абавязвалі нікога. І таксама лічу, што наша арганізацыя праіснавала столькі часу, ацалела, таму што не было прынятага статуту.

**— Як на заснаванне «Белавежы» глядзелі, як каментавалі польскія літаратары?**

— Заўсёды з'яўляюцца пісаныя водгукі на нейкі дакумент. Водгук з'явіўся і ў беларускім асяроддзі, і ў польскім, і рускім, калі Валкавыцкі выдаў першую на Беласточчыне літаратурную кнігу «Рунь». У кнігу ён запрапанаваў вершы сямнаццаці аўтараў, а заснавальнікаў было васямнаццаць чалавек, хаця адна трэцяя іх ніколі не пісалі літаратурных твораў. Тым не менш яны лічыліся заснавальнікамі. Ну вось на «Рунь» адгукнуліся і польскае літаратурнае асяроддзе, і беларускае. Бо ўжо быў датыкальны факт — з'явілася кніжка. Ці гаварылася пра гэта, што ў чэрвені 1958 года стваралася літаратурная арганізацыя, я гэтым не цікавіўся. Я быў тады маладым чалавекам і мяне не цікавілі пошукі ці ў беластоцкіх газетах была інфармацыя. З сённяшняй перспектывы я думаю, што інфармацыя была.

**— Значэнне «Белавежы» добра аддаюць словы Сакрата Яновіча, які сказаў, што польская літаратура гэта літаратура польская і беларуская.**

— Так. Сакрат Яновіч сваім акрэсленнем, што Польшча з'яўляецца краінай дзвюх літаратур, меў на ўвазе, што апрача польскай літаратуры, літаратуры карэннага народа, толькі беларусы стварылі літаратуру ў прамым сэнсе гэтага слова. Ніводная іншая нацыянальная меншасць не можа пахваліцца такім набыткам. Проста канстатуем такі факт — і гэта якраз падкрэсліў Сакрат Яновіч, што апрача беларусаў, ні ўкраінцы, ні расіяне, ні армяне не стварылі сваёй літаратуры. Не было ў іх сіл, не было патрэбы, не было кадравых магчымасцей, не было нейкай згушчанасці асяроддзя, нейкага ўнутранага патэнцыялу. Патэнцыялу, які можа ў пэўным часе, у пэўным сацыяльна-грамадскім клімаце выбухнуць, расцвісці, раскрыцца. І ў дачыненні да беларусаў, гэта так і трэба разумець, быў унутраны прыхаваны патэнцыял.

**— Так як Вы самі ўжо сказалі, колькасць беларусаў паменшылася. Ці таксама заўважаеце, што паменшылася колькасць чытачоў? Ці «Белавежа» выходзіць таксама насупраць польскамоўнаму чытачу, скажам, праз пераклады?**

— Гэта праблема не нацыянальная, не польская, не беларуская, гэта цывілізацыйная праблема. Слова саступае электроніцы. Няма на гэта ратунку. Даўжыня сказа саступае эсэмэсцы. Не сказ, не шматслоўе, не прыгожы вобраз, не паглыбленасць у музыку роднага слова, а кароткае, адным пальцам напісанае выказванне ў тэлефоне. Гэта цывілізацыйная праблема. Можна сказаць, што слова перастае быць сродкам эстэтычна-маральнага яднання людзей. Слова скарачаецца да мінімуму. А вось эстэтычныя перажыванні этычнага характару поўнасцю рэдукуюцца. Раней быў чытач з гарызонтам чакання. Чытач чакаў новай кнігі пісьменніка. Цяпер гэтага гарызонту ўвогуле няма. Ні беларусы Польшчы, ні палякі на сваёй радзіме не маюць чытача. А калі ёсць чытач, то яго трэба штучна ствараць. Якім чынам? Запрашаць у залы, ствараць канцэрт, каб з'явіўся пісьменнік, якому робіцца рэклама...

**— Ну, але сябры «Белавежы» самі абараняюцца сваёй творчасцю, паколькі і Міра Лукша, і Міхась Андрасюк — лаўрэаты прэстыжнай прэміі імя Вяслава Казанэцкага.**

— Вы маеце рацыю, але калі я гаварыў, то я абагульняў. Нават у Беларусі, у Мінску старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч гаворыць, што трэба нешта рабіць, таму што згіне ўвогуле чытач. Што рабіць? І я тут песіміст. Электронная цывілізацыя паглынае наша слова, кніжнае слова. Кніга перастае быць патрэбнай. Колькі не заклінай, папяровая кніга ідзе на спад.

**— Дзякую за размову. Хаця завяршаем яе даволі сумным акцэнтам, усё-такі сябрам «Белавежы» жадаю творчага плёну.**

Уршуля ШУБЗДА





# Фэйк

Як лёгка ў наш час стала праглядаць навіны. Бярэш свой тэлефон і лянiва водзіш пальцам па экране. Можаш гэта рабіць у хаце, у бары, у лазні, у перапынку паміж працай і паездкай дахаты і нават на працоўным месцы. І начальніка можна не баяцца. Ён робіць тое самае. Не, я не меў на ўвазе, што ён упарта шукае праўдзівыя навіны. Я пра тое, што ён, як і яго падначаленыя, водзіць пальцам па экране тэлефона.

Бо навіны гэта нешта іншае. Праглядаць то іх сапраўды стала лёгка. Гэта чыстая праўда. А вось шукаць усё цяжэй ды цяжэй. І тут няма аніякага парадоксу. Проста чалавецтва на падман і фальшывыя звесткі, якія можна назваць па-навамоднаму фэйкамі, або па-старому дэзынфармацыяй, сутнасць ад гэтага не мяняецца, выдаткоўвае значна большыя сродкі, чым на пошук праўдзівай інфармацыі. З чаго робім выснову, што праўда стала незапатрабаваным таварам. А хто ў наш час стане інвеставаць у незапатрабаваны тавар? Няма дурных. Дакладней, яны ёсць, я нават ведаю такіх, але іх усё менш і менш.

Ну ўявіце сабе сур'ёзнае журналісцкае расследаванне. Ну хоць бы якой дробненькай карупцыйнай схемы. Або расследаванне злоўжываннеў уладай якогась там ашалелага ад гэтай улады генерала. Або проста выяўленне самага звычайнага і ўжо да зубной болі банальнага распілу бюджэтных сродкаў. Якія для гэтага рэсурсы павінна мець рэдакцыя, каб аплаціць журналістам паўгода іх цяжкай працы, з камандзіроўкамі і сутачнымі, гатэлямі і транспартам, і ў выніку атрымаць усяго толькі адзін, хай сабе і разгромны, але ўсяго толькі адзін матэрыял, які зляціць некуды ўніз на вашым мабільным прыстасаванні ад лёгкага кіўка пальцам.

А ўявіце сабе журналістаў, якім рэдакцыя нешта заплаціць за іх надзвычай рызыкоўную дзейнасць праз паўгода працы за адзін, хай сабе разгромны, але ўсяго толькі адзін матэрыял. Усё без падману. Аплата згодна з прэйскурантам. Можа яшчэ і прэмію дадуць, зноў жа ў адпаведнасці ўсё з тым жа славутым прэйскурантам.

А з другога боку ад журналісцкага расследавання і таго заробку разам з прэміяй ёсць нейкія канкрэтныя людзі, з імёнамі і прозвішчамі, з пасадамі і паўнамоцтвамі, і з вялікімі сродкамі, пра якіх гэты матэрыял напісаны. Ну тыя, з карупцыйных схем, ці ашалелы ад улады генерал ці проста самыя звычайныя ўдзельнікі самага банальнага распілу бюджэтных сродкаў. І яны таксама хочуць па-свойму аддзячыць акуле пяра. А заадно і рэдактару, і рэдакцыі, і ні ў чым не замешанаму мірнаму насельніцтву, якое ў гэты час выпадкова выйшла пакурыць і патрапіла пад гарачую руку. І магчымасці ў тых людзей значна большыя, чым у рэдакцыі. А ў акулаў пяра, у адрозненні ад іх марскіх цёзак, паламаныя зубы не адрастаюць бясконца.

Ну а што такое дэзынфармацыя, або як зараз называецца гэтая з'ява — фэйк. У адрозненні ад журналісцкага расследавання там усё проста. Ёсць заказ, заказ аплачваецца, і рызыкаваць нічым не трэба. Нікуды не трэба ісці, сядзіш за сваім «кампом» і абліваеш прыстойнага чалавека брудам. Чым больш няпраўды, тым лепш. Псеўданімы можна мяняць кожную гадзіну і хай абаланы і пакрыўджаны падае ў суд на той псеўданім. Калі там і не пасмяюцца чарговы раз з наіўнасці шукальніка праўды, то што моцна падзівяцца яго цвердалобасці, дык гэта дакладна.

Ну а калі фэйкавы псеўданімшчык умее абалгаць не толькі асобу, але і праўдзівыя звесткі, і праўду як з'яву, то яму цаны няма. Вось што запатрабаванае: мастацтва змагання з праўдай. А паколькі яно так моцна запатрабаванае, то адпаведна і аплачваецца. І адпаведна ахоўваецца. Часамі нават дзяржавай.

Фэйк стаў не толькі навамоднай з'явай, але і штодзённай. Бо там нічога не трэба думаць, аналізаваць, напружваць мазгі. Там можна паржаць, напісаць такія ж паскудныя каментары і самае галоўнае сказаць самому сабе і іншым, што не толькі ты нягоднік, але і іншыя таксама. Бо во што пра іх напісанае. У гэтым і ўвесь сакрэт запатрабаванасці фэйка.

Ну а сакрэт чаму людзі шукаюць, а часамі рызыкуючы сабой і робяць сапраўдныя навіны яшчэ не раскрыты. Вельмі там усё заблытана.

Віктар САЗОНАЎ

# Мае тры капейкі



Разгуляліся дэманы. Па гарадах, па вёсках, па хутарах. Упадабалі гарады тыя стомордыя, істэрычныя, нахабныя, урэдныя. Вёскі — хоць і больш сцішаныя, але ж аднолькава крывадушныя і паскудныя. Поўна іх у інтэрнэце, на тэлебачанні, у газетах, сельскіх клубіках дзе на століках афіцыйны аранжад, а пад ім адкрытая бутэлька віна «палкай пісанага». Хоць усё больш і больш на яе месцы з'яўляецца бутэлька віскі або грэцкай «Метаксы». Гэта зусім не азначае, што дэманы хаваюцца на донцы апарожненых пляшак — без значэння, ці з-пад напою польскага, ці замежнага. Будынак польскага парламента ніяк не нагадвае архітэктурай пляшкі самагонкі, а дэманаў у ім столькі, што лопае галава. Горш таго, яны ўварваліся ў школы... І нават... у дзяржаўных лясах. На самой справе, аж просіцца да ўніверсальнага экзарцызму. Але гэта ўсё роўна як упусціць галоднага ліса ў куратнік. І адкуль усе тыя бесы, чортава насенне ды ліха ўсялякае. Ці не прывалакліся яны з гнілой Еўропы, на што намякае нястомны ў расхвальванні польскага засценка айцец Рыдзык? Або з усходу, з Расіі, або, не дай Бог, з мусульманскай Азіі? А аднікуль! Яны заўсёды былі ў Польшчы. Толькі што яны былі за морды ўзятыя, трыманыя пад чаравікам, пугай дысцыплінаваныя. І што цікава, усе да гэтага прыкладваліся. І калі не ўсе, то большасць. У адваротным выпадку з дэманамі не дасі рады. Толькі так. Не высячэш іх з чалавечых галоў, хіба што з паловай мозгу. А няма такой улады, якая б дала на гэта дазвол. Перш за ўсё таму, што ні адно грамадства не пагодзіцца на такую ўладу. Тым больш, што такая аперацыя склала б універсальную лабектамію, якая звяла б чалавечую істоту да абвялага сельдарэю. Іншая справа, што многім ідэолагам і няўдалым палітыкам таксама сніцца на яве панаванне над радамі сельдарэяў. На шчасце, большасць з нас такіх неўдалот трактуе як... неўдалот. Але ж ёсць сярод такіх такія ў нашым асяроддзі, што ўслухоўваюцца ў іхні асліны голас. Давайце не будзем падманвацца. Пільнуйма нашы мазгі. Гэта ў іх адбываецца вечная барацьба паміж дабром і злом. Барацьба таго, што ў нас цывілізаванае, сцвярджальнае, уключанае ў кодэкс адносна справядлівых законаў, з тым, што біялагічнае і спрадвечнае, як той самы страшны дэман чалавека, Сатана. Гад. Дэманы дэманамі, а хтосьці надалей раздзьмухвае іх як жывыя іскры са стылага попелу. За час улады ГП і Дональда Туска мела іх тушыць цёплая вада ў кране. Не было гэта нічога вартае. У каго быў кран, у іншага не было водазабеспячэння дома... Пачуццё сацыяльнай няроўнасці, несправядлівасці, крыўды нараджала зайздрасць, гнеў. Гэты момант у гісторыі Польшчы, калі мясцовыя дэманы раслі ў сілу, быў тагачаснымі кіруючымі коламі праваронены. Калісь называлі гэта апантаннем, што лячылася экзарцызмамі. Або распраўляліся з ім рэзка, спальваючы на кастры апантанага разам з яго дэманамі. Сёння такую хваробу называецца раздвойваннем асобы або шызафрэніяй. Польшча ў цяперашні час перажывае яе глыбокую форму.

Напісаў шмат гадоў таму Антоні Кемпінскі, вялікі гуманіст і псіхіятр: «У шызафрэнічным азарэнні пацыент раптам бачыць сэнс свайго жыцця, галоўную яго мэту і сваю місію [...]». Тут дакіну свае тры капейкі каментарыя... Калі ласка, звярніце ўвагу на радыкалізацыю людскіх перакананняў. І ступень эмацыйнасці, якая суправаджае гэтую з'яву. На самой справе, усюды. У чарзе на прыём да ўрача, у магазіне, на вуліцы, на працы, дома, у гарадах, у вёсках у прынцыпе чуецца апантанае верашчанне, а не спакойнае абмеркаванне. Няма разумных довадаў, але неўраўнаважаныя эмоцыі. Усё, здаецца, азаранае якойсьці думкай, ідэяй. І кожны перакананы ў перавазе свайго рацыі. Ніхто нікога не слухае. Польскі нацыяналіст не слухае беларускага. Ліберал кансерватыста. Вернік атэіста. Духоўнік каючагася... Існы дурдом.

«Часам, — піша там жа прафесар Кемпінскі, — гэтая мэта [у шызафрэнічным азарэнні] з'яўляецца грамадска станоўчай, што называецца шызафрэніяй *paradoxalis socialiter fausta*. Хворы аддае ўсе думкі, каб стварыць вялікую працу свайго жыцця, напрыклад, міласэрнасць, як Брат Альберт, мастацтва, як Стрындберг, Монсель, або філасофію, як Комт".

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Свята слова

Ой чаго то не робіцца на гэтым свеце. Здавалася б, раней недаступныя і экзатычныя краіны свету зараз нам даступныя як ніколі раней. А ўсё дзякуючы большай даступнасці да авіятранспарту і магчымасці загадзя набыць даволі танныя квіткі, якія не перакрываюць нам твар ад самой цаны, а наадварот — навядуць усмешку і добры гумар. Паняцце глабальнай вёскі стала ўжо хлебам надзённым. Завітвае яно і на старонкі нашага тыднёвіка. Італія, Філіпіны, Беларусь — ужо не за гарамі і не за лясамі. Хаця, напрыклад, выехаць з Беластока ў Гродна ранняй парою даволі цяжкавата, бо ёсць толькі адна маршрутка ў 6:30, а потым доўга, доўга нічога. І менавіта яна дае магчымасць перасесці ў Гродне на трасу ў Мінск і быць там пасля трох з паловай гадзіны, нягледзячы нават на разбудову гэтай дарогі на двухпалосную. Пасля завяршэння работ камфартабельнасць падарожжа, як і сам час дарогі зменшыцца напэўна. Менавіта бізнес маршрутак вельмі моцна развінуты і існуе тут даволі вялікая канкурэнцыя. Шафёры аператыўна і эластычна дапасоўваюцца да кожнага кліента, будучы з кожным з іх у кантакце па мабільніку. Пераканаўся і я ў гэтым са сваёй развзватасцю. Проста паклаў я сваю вясновую куртку ў куфар над галавою і забыў яе, выходзячы ў Мінску. Шафёр пазваніў мне і сказаў, што куртку можа ўзяць у Гродне. Застаўся я без курткі. Над Мінскам адразу прайшла бура з праліўным дажджом, а нам з Ганнай Кандрацюк трэба было ісці на яе аўтарскую прэзентацыю кніжкі «Па Прыпяці па Нобель». Ганна мела аднак парасон і гэта нас выратавала. Мы вельмі моцна хваляваліся наконт сустрэчы, але Барыс Пятровіч са сваёй пісьменніцкай далікатнасцю арганізаваў усё на найвышэйшым узроўні, уключна з канцэртнай часткай. Мы вельмі рады, што маглі пабачыць столькі майстроў паэтычнага і празаічнага слова. Чарговы раз у захапленне прывёў нас Уладзімір Арлоў, які, прачытаўшы ўжо кніжку, падзяліўся з прысутнымі сваімі ўражаннямі, паехаў зрабіць укол і яшчэ вярнуўся ў кнігарню «Ў», дзе надалей працягваўся сустрэча. Такая гісторыя для нас гэта проста самая, вялікая ўзнагарода. Але гэта не канец таго дабра, якое зладзіў нам Саюз беларускіх пісьменнікаў. На другі дзень, зразумела ў маршрутцы пад музыку калектыву з Бельскага белліцэя, падаліся мы ў Гарошкаў — на радзіму Анатоля Сыса, дзе ў яго гонар надзіцца літаратурны фестываль «Агмень». Урэшце ўдалося мне пазнаёміцца з чарговым прадстаўніком паляшуцкага племені — Андрэем Федарэнкам, які распавядаў нам па дарозе пра асаблівасці роднага Мазыра. З адной асаблівасцю Палесся выпала нам справіцца ўсім — а менавіта з атакай мошак, якія проста заядаюць і звярыну, і людзей. На лугах не было відаць статкаў кароў, проста былі яны зачынены ў хлявах і на фермах. Такога даўно тут не было і кожны спраўляўся з мошкамі на свой спосаб. А то нейкія «псікачы», а то звычайныя галінкі, а нават мясцовыя рэцэпты сумесей на аснове воцату.

І тут таксама наша рэдакцыйная сяброўка прэзентавала свае кніжкі, у тым ліку напісаную ёю раней «Дзядоўскае турнэ з Анатолем С» менавіта пра вандроўку ў Гарошкаў. Ганна свае кніжкі падарыла ў музей — родны дом паэта. Для мяне асабіста гэтае падарожжа было вельмі эмацыянальным. Урэшце пабываў я ў мясцінах, якія спарадзілі аднаго з беларускіх паэтычных геніяў. Наколькі важным і прыгожым ёсць такі фэст на родным панадворку ў сямейна-вясковапаэтычнай кампаніі, проста не апісаць. А на ўсё зверху, седзячы на воблаку, спаглядаў сам Анатоль. Бо дзе ж яму быць, як не на роднай старонцы. Прырода і паэтычна-музычнае слова былі тым суквеццем, якога проста не хацелася пакідаць. А гасціннасць сямейнікаў проста незвычайная. Усё згатаванае ўласнымі рукамі, проста смачнейшага і быць не магло. А мы з Ганнай дзякуем усім людзям, хто нас прымаў, гасцяваў, падтрымліваў сардэчным беларускім словам.

Яўген ВАПА

# Пад пальмамі ў Міколы Цудатворца (ч.3)



У дарозе да мошчаў святога Мікалая мы падаліся ў адпаведнасці з мясцовым рытуалам. Італьянцы пачынаюць дзень ад салодкага. Улюбёны сняданак — круасаны, далікатныя піражкі з шакаладнай, крэмавай, абрыкосавай ці фігавай начынкай. Іх папіваюць кавай эспрэса, згатаванай у мініяцюрных кававарках. Згодна з рытуалам, сняданак найлепш спажыць у кавярні, сярод ветлівай абслугі і свежай прэсы, выкладзенай на століках. Таму гарадскія кавярні працуюць ужо ад сёмай раніцы. Мы завіталі ў кавярню, якая знаходзілася два будынкі далей ад нашага пансіяната (трыста метраў далей працавала падобная знакамітая кавярня). Нягледзячы на раннюю пару, у прашклёнай сярэдзіне снедалі сямейка з чатырох асоб і трох пастаянных наведвальнікаў. Яны на сяброўкай ноце вялі з абслугай абмен ранішнімі навінамі, гадалі пра надвор'е і поспехі мясцовых спартсменаў. Італьянская кавярня — гэта свайго роду жывое мастацтва. У прашклёным нутры з вытанчанай мэбляй, дыскрэтным дэкорам і экзатычнай флорай змяшчаўся казачны бар. Хоць больш за ўсё захаплялі барысты. За буфетам, дзе не глянь, сустракалі нас выстылізаваныя, быццам з журнала мод, мужчыны. Напаміналі яны персоны з карцін імпрэсіяністаў. Здавалася, падрыхтаваная імі кава мае парыжскі смак. Хоць — не! У італьянцаў свая культура піцця кавы. Яна, калі ўлічыць польскія меркі і цэны, каштуе тут грашакі. Таму старыя і маладыя забягаюць папіць каву некалькі разоў удзень. Сярод найбольш папулярных гатункаў кавы — моцнае эспрэса, якое падаюць у мініяцюрных філіжанках з тоўстымі сценкамі са шклянкай вады. Як не цікава, кошт гэтай «народнай» кавы аднолькавы ва ўсёй Італіі — 1 еўра. У кожнай кавярні прапануюць яшчэ *caffe latte, mocaccino, frappe, americana*... і ўсе вядомыя напоі свету!

* * *

У дарозе да кафедры нас абмінулі ездакі на карых, задбаных рысаках. Рыхтаваліся яны да начной фіесты, якая выпадала ўжо праз дзень. Для беларусаў «цёплы», вясновы Мікола — апякун коней. Напярэдадні свята мужчыны ўпершыню выводзілі коней на начны папас. Тады таксама адпраўлялі з конямі маладзёнаў, якія пасля такой ночы лічыліся ўжо кавалеркай...

Не менш свойскай здалася легенда, з дапамогай якой жыхары Бары даказваюць свае правы на мошчы святога Міколы. Як вядома, памёр ён 6 снежня (па новым стылі 19 снежня) у 345 годзе. Свяціцеля пахавалі ў саборы горада Міры, прыналежнаму Візантыйскай імперыі. Першыя агіяграфіі і хронікі цудаў з'явіліся не адразу, а праз два стагоддзі, з-за чаго скептыкі не даяраюць у рэальнае існаванне святога. Культ расцвіў і ўспыхнуў з новай сілай пад канец Х стагоддзя, разам з хрышчэннем Русі. Якраз у нашай частцы свету цудатворца Міколу адразу палічылі самым любімым і дапаможным нябесным заступнікам. Па сённяшні дзень ён самы любімы святы на Палессі. Але ў ХІ стагоддзі горад Міры апынуўся ў турэцкіх руках ды пачалася брутальная ісламізацыя. Захопнікі пустошылі горад і знішчалі хрысціянскія храмы. Мошчы Міколы Цудатворца апынуліся пад вялікай пагрозай. І вось, паводле мясцовай легенды, святы з'явіўся ў сне самому біскупу Бары. Ён загадаў біскупу, каб той без аглядкі выслаў па яго карабель і перавёз яго астанкі праз мора, у Італію. Да сонечнага Бары, менавіта! Саноўнік распавёў свой сон, а жыхары горада паверылі ў божы промысел. Яны выправілі ў горад Міры ў якасці прадстаўнікоў гарадскую знаць і святчэннікаў. Пасля многіх перыпетый і перашкод, яны знайшлі раку з мошчамі і перанеслі на карабель. Людзі, якія неслі раку, або дакраналіся да яе, на месцы атрымлівалі аздараўленне.

9 мая (па новым стылі 22 мая) святыні вялікага цудатворца пад ганаровым эскортам шчасліва прыплылі да Бары. Насустрач выйшлі ўсе жыхары горада са свечкамі і набожнымі песнямі.

Усё гэта адбылося вясной 1087 года.

* * *

У Санта-Нікольскі касцёл на ранняе набажэнства мы прабіваліся вузенькімі вулачкамі. Здавалася, вандруем праз нутро жывога арганізма. Дзверы ў многіх дамах былі адкрыты насцеж, у памяшканнях пры газавых плітах завіхаліся гаспадыні. Нехта памыў навалачкі і адзенне ды развешваў на сушылцы, выстаўленай на вуліцу. Трэба было зважаць, каб нехта, нехаця, з размаху не шугануў памыямі з вядра. Мокрыя стружкі дзе-нідзе плылі каменнымі вулачкамі, напаўняючы месца пахамі жыцця. Калі пра пахі — яны найлепш маявалі стыль штодзённага і нядзельнага жыцця. У паветры лунаў арамат кавы з нотай ванілі і амарэта... Далей — а як жа — прастору завулкаў выпаўнялі пахі свежазвараных макаронаў і часначку...

У строі мясцовых жанчын мы прыкмецілі знаёмыя элементы гардэробу. Большасць жанчын у гадах трымалася сваёй моды. Яны завіхаліся ў тых жа квяцістых фартухах, як нашы вясковыя гаспадынькі. Нічога, што побач пераліваліся патокі турыстаў са свету...

У Санта-Нікольскі касцёл, дзе якраз служылі ранішняе набажэнства, заходзілі турысты ў кароткіх штоніках і скупых майках. Вартавыя, сярод якіх было шмат жанчын, не звярталі ўвагі на такія «правіны». У галоўным нефе, запоўненым да апошняга месца, праседжвалі прадстаўнікі ўсіх пакаленняў і полаў. Большасць мужчын апранулася ў касцюмы. Прыгожы пол таксама выглядаў сціпла і адначасова элегантна, хаця тут панавала большая свабода. Побач нас выседжвала дзеўка з сабачкам на руках.... На шыі ў модна прычэсанага сабачкі віднела сярэбраная біжутэрыя...

Каб поўнасцю адчуць дастойнасць лацінскай імшы, неабходна паехаць у Італію. Слова святара ўзвышаў касцельны хор. Здавалася, у ім адны оперныя спевакі. Іх галасы адбіваліся ў мармуровых скляпеннях гатычнай архітэктуры касцёла, абуджаючы жывую і набрынялую памяць месца...

Якраз у гэтай кафедры ў апошнія гады жыцця малілася наша каралева Бона. Зараз яе астанкі пахаваныя ў галоўным алтары. Яе мармуровая грабніца прыаздобленая скульптурай. Побач св. Станіслаў, духовы патрон Польшчы, і Мікола Цудатворца — любімы святы каралевы. Раней, дзякуючы Ганне Ягелонцы, месца спачыну Боны Сфорцы аздаблялі выявы святых Польскай зямлі. Малюнак аднак замалявалі ў пачатку ХХ стагоддзя. Пэўную кампенсацыю складаюць візантыйскія фрэскі па правым баку алтара...

А сам гроб з мошчамі свяціцеля Міколы — у падвалах касцёла...

Завітаем туды адразу пасля імшы, следам сціплых праваслаўных паломніц з Харкава, у хустачках...

(працяг будзе)



Грабніца каралевы Боны



Візантыйскі прастол у верхняй частцы касцёла

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

# У канцы экзамен з беларускай мовы!

**У Агулнаадукацыйным ліцэі з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы сёлета вучобу закончыла 79 выпускнікоў, а ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім адукацыю завяршыла 86 асоб. Яны прыступілі да пісьмовых матуральных экзаменаў, якія распачаліся 4 мая іспытам па польскай мове і закончыліся 23 мая пісьмовай праверкай па беларускай мове. У гэты дзень пабываў я ў Гайнаўскім белліцэі, дзе сёлетнія выпускнікі падзяліліся ўражаннямі ад пісьмовых і вусных матуральных экзаменаў па беларускай мове, якія былі, між іншым, падвядзеннем вынікаў іх трохгадовай вучобы беларускай мове ў белліцэі.**



■ Выпускнікі Гайнаўскага белліцэя

Частка гайнаўскіх белліцэістаў вучылася беларускай мове з першага класа пачатковай школы і ім было лягчэй вучыцца роднай мове на ліцэйскім узроўні. Іншыя мае суразмоўцы пачыналі вучыцца па-беларуску ў гімназіі. Паспяхова вучобу ў Гайнаўскім белліцэі закончылі таксама асобы, якія пачалі вучыцца беларускай мове толькі ў першым класе белліцэя, хаця гэтых апошніх было нямнога. Настаўнікі беларускай мовы дапамагаюць такім вучням падцягнуцца да ўзроўню больш вопытных ліцэістаў, каб маглі яны поўнасцю рэалізаваць школьную праграму па роднай мове. Гэта дазваляе больш падрабязна знаёміцца з беларускай літаратурай, культурай, мясцовай гісторыяй і традыцыяй. Па праграмных падставах навучання беларускай мове падбіраюцца тэмы для пісьмовага і вуснага матуральных экзаменаў. Раней апрача пісьмовага экзамену вучням трэба было падрыхтаваць і перад камісіяй прадставіць прэзентацыю на загадзя выбраную тэму. Цяпер, так як па польскай мове, арганізуецца вусны матуральны экзамен па беларускай мове.Здаваць матуральны экзамен па беларускай мове ў пашыраным варыянце рашаліся ў мінулых гадах лаўрэаты і фіналісты Алімпіяды па беларускай мове і так было ў гэтым годзе. Яны атрымаюць максімальную колькасць балаў на пісьмовым матуральным экзамене па беларускай мове ў пашыранай формуле і з вуснага іспыту без прыступання да гэтых экзаменаў.

Выпускнікі Агульнаадукацыйнага ліцэя з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы 23 мая пачалі выходзіць з пісьмовага экзамену па беларускай мове намнога раней перад часам, які адведзены быў на экзамен. На іх тварах красаваліся ўсмешкі. Гаварылі яны найчасцей, што экзамен не быў складаным. Былыя белліцэісты сказалі, што перад самым пісьмовым экзаменам па беларускай мове многа часу да яго не рыхтаваліся, таму што не ведалі, на якія пытанні звяртаць асаблівую ўвагу.

— У нас была магчымасць выбраць для сачынення адну з дзвюх прапанаваных тэм. Мы маглі пісаць аб канфлікце пакаленняў, прадставіць свае погляды і даць да іх аргументы, спасылаючыся на тэкст Барыса Сачанкі «Чаравікі-туфелькі» і іншыя тэксты культуры. Выбіраючы другую тэму, трэба было зрабіць аналіз верша Максіма Багдановіча «Пагоня», паставіць да яго інтэрпрэтацыйны тэзіс і абгрунтаваць яго, — заявілі мне гайнаўскія белліцэісткі і дабавілі, што сачыненне павінна быць напісана з выкарыстаннем прынамсі 250 слоў.

Падчас пісьмовага матуральнага экзамену апрача напісання творчай працы белліцэістам трэба было адказваць на пытанні па двух нелітаратурных тэкстах. Мартына Панасюк і Юлія Рыбак сказалі, што з пісьмовым экзаменам па беларускай мове можна было паспяхова справіцца, але трэба было задумвацца, якія словы падбіраць, каб правільна выказацца. Мілена Валонцей удакладніла, што каб паспяхова справіцца з матуральнымі экзаменамі, трэба набраць прынамсі 30% магчымых для здабыцця балаў, што ў выпадку пісьмовага экзамену па беларускай мове складае 15, а вуснага — 12 балаў.

— Апрача пісання сачынення на выбраную тэму, трэба было таксама працаваць з тэкстамі, дакладна ўчытвацца ў іх і адказваць на пытанні, — паінфармавалі гайнаўскія белліцэісткі Магдалена Кэндысь і Аляксандра Данілюк.

— Мы адказвалі на пытанні наконт нелітаратурнага тэксту Сандры Ньюман «Мужчына ў слязах» пра плач мужчыны, апісаны ў мінулым у літаратурных творах. Зараз плач мужчыны гэта сарамлівая, скрываная з'ява, якая не апісваецца ў літаратуры, — гаварылі белліцэісты. — У іншым нелітаратурным тэксце, па якім мы адказвалі, можна было прачытаць, што друкаванне тэкстаў спрычыняецца да развіцця беларускай мовы і дазваляе пазбягаць у выказваннях іншамоўных слоў.

— Я пісаў сачыненне аб канфлікце пакаленняў. Зараз таксама маладыя асобы не разумеюць сваіх бацькоў, а бывае што і бацькі не разумеюць сваіх дзяцей. Адказваючы на пытанні да тэксту «Мужчына ў слязах» я заявіў, што цяпер мужчыны хаваюць свой плач і дрэнны настрой, чаго не было ў далёкім мінулым. Тады як у еўрапейскай, так і ў японскай літаратуры апісваўся плач мужчын, якія вярталіся з вайны, — распавёў Адрыян Красько.

— У сачыненні я прааналізавала патрыятычны твор «Пагоня» Максіма Багдановіча, які мне падабаецца. На вусным экзамене выцягнула білет з пытаннем пра камізм у літаратуры. У сваім выказванні спаслалася я, між іншым, на «Пінскую шляхту» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і на творы польскай літаратуры, што давала магчымасць больш рознабакова раскрыць тэму, — заявіла Анна Чыквін.

— Загадзя былі назначаны дзень і гадзіна вуснага экзамену па беларускай мове канкрэтнай асобе, так як было падчас вусных адказаў па польскай мове. Мы выцягвалі білет, на якім было адно пытанне і па ім адказвалі. Пасля настаўнікі маглі ставіць дадатковыя пытанні, каб наш адказ быў больш поўным. Тут трэба было выкарыстаць умеласць маўлення на беларускай літаратурнай мове, бо пытанні былі даволі агульнымі і, адказваючы на іх, часта можна было даваць прыклады з розных літаратурных твораў. Адказвалі мы па беларускай літаратуры, мове, культуры, давалі прыклады з іншых літаратур, — гаварылі белліцэісты.

— Падчас вуснага адказу я распавядала пра вобраз Радзімы і спаслалася на «Мой родны кут» — фрагмент «Новай зямлі» Якуба Коласа і на «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча, — гаварыла Наталля Дзюбонос.

— У час вуснага экзамену па беларускай мове я аналізавала тэкст з іншамоўнымі словамі, перш за ўсё расійскімі. Я знаходзіла гэтыя словы і пасля сказала, што добрае веданне мовы, якой мы карыстаемся, сведчыць таксама аб чалавеку, — гаварыла Мая Мішчук.

— Я распавядала пра дыялектныя мовы. Дыялект, на якім размаўляюць мае дзядуля і бабуля і з якімі я таксама прабую гаварыць, гэта наша спадчына, так як беларускія традыцыі, ці культура, а веданне многіх моў моцна ўзбагачае чалавека, — гаварыла Анна Нэстэрук.

Юліта Рушук і Аляксандра Сімончук гаварылі, што падчас вуснага матуральнага экзамену па беларускай мове можна было абапірацца на літаратуру розных нацый, тэксты культуры і іншыя прыклады, што давала вялікія магчымасці запрэзентаваць перад камісіяй свае ўмеласці па беларускай мове і веды, якія засвоілі на ўроках. Іза Келбашэўская і Габрыеля Кот, якія дабіваліся поспехаў у алімпіядах спалучаных з навучаннем біялогіі, зрабілі стаўку таксама на матэматыку. Аднак экзамен па матэматыцы ў пашыраным варыянце быў асабліва складаным, затое быў простым у падставовай формуле.

— Вучні, якія выказваліся перад камісіяй, у якой я працаваў, станоўча справіліся з вусным матуральным экзаменам па беларускай мове. Пытанні тычыліся літаратуры, беларускай мовы, культуры і іншых тэм. Напрыклад вучні распавядалі пра каханне і шчасце ў літаратуры, пра свет дзяцінства, гаварылі аб фальклоры, народных традыцыях, але таксама былі спасылкі на творчасць Наталлі Арсенневай. За пытанні да пісьмовых і вусных матуральных экзаменаў адказная Цэнтральная экзаменацыйная камісія і былі яны згодны з праграмнай падставай вучобы па беларускай мове ў гімназіі і ліцэі. У наш ліцэй прыходзяць вучні, якія раней не вучыліся беларускай мове. Патрапяць яны падцягнуцца і пасля трохгадовай навукі станоўча спраўляюцца з матуральнымі экзаменамі па беларускай мове, — сказаў настаўнік беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі Янка Карчэўскі. Дабавіў ён, што вынікі пісьмовых матуральных экзаменаў будуць вядомыя ў пачатку ліпеня.

Мае суразмоўцы сказалі, што намерваюцца паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы.

— Мае сябры хочуць працягваць адукацыю ў політэхнічным інстытуце, медыцынскай акадэміі, але таксама ва ўніверсітэтах. Ёсць ахвотныя вучыцца на архітэктуры і ў мастацкай акадэміі. Некаторыя нашы выпускнікі хочуць вучыцца акцёрству і рэжысуры ў фільмавай школе ў Лодзі, ці ў тэатральнай у Беластоку, — заявіла Анна Нэстэрук і дабавіла, што сваю будучыню спалучае з матэматыкай, але яшчэ не вырашыла, у якую вышэйшую ўстанову мае намер паступаць.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



# Манументальна і прачула на Пралогу

**Вялікі сойм**, які адбыўся ў Бельску ў чэрвені-ліпені 1564 года, з'яўляецца адной з самых важных падзей у грамадска-палітычнай гісторыі Падляшша. Гэта быў вялікі з'езд самых важных асоб у краіне — ваяводаў, князёў, духавенства, намеснікаў, старастаў, маршалкаў, харужых і мноства шляхты і мяшчан. Разам са світай, дваранамі, стражай і абслугай у Бельск прыбыло было некалькі тысяч людзей. На Вялікім сойме бельскім вырашалі аб найбольш важных дзяржаўных пытаннях Вялікага Княства Літоўскага, па адміністрацыйна-тэрытарыяльнай і судовай рэформе. Тут кароль і вялікі князь Жыгімонт Аўгуст падпісаў Бельскі прывілей і прыняў тэкст Другога статута ВКЛ, над якім спецыяльная камісія працавала на працягу амаль 20 гадоў. У Бельску юрыдычна былі зацверджаны прынцыпы рэлігійнай талерантнасці ў дзяржаве. Рымска-каталіцкі касцёл і Праваслаўная царква сталі роўныя перад законам. На Сойме ў Бельску таксама абмяркавалі нялёгкія і няпростыя пытанні дзяржаўнага аб'яднання Вялікага Княства і Кароны. Неабходна было ўзгадніць інтарэсы многіх сацыяльных груп і бачанне тае уніі. Сойм у Бельску працаваў да 22 ліпеня 1564 года. У той жа дзень, па словах храніста Марціна Бельскага, драўляны замак высокі згарэў ад удару маланкі. Абрады былі спынены, дэлегаты раз'ехаліся, а ў лістападзе таго ж года працягнулі дэбаты на генеральным Сойме ў Мінску.

Час Вялікага сойма супаў з вяршыняй сацыяльна-эканамічнага развіцця Бельска, які тады належаў да эліты гарадоў Вялікага Княства Літоўскага. Прабыванне ў ім такога ліку дэлегатаў сойма дадалі бляску гораду на многія гады.

— Цяпер мы, як спадчыннікі Вялікага сойма, можам чэрпаць ад яго шмат навукі і думкі, — адзначыў Дарафей Фіёнік. — Таму ў Бельску адкрыты помнік у гонар адной з самых важных падзей у гісторыі горада, пасля амаль пяці гадоў намаганняў такім чынам увекавечыць падзею. Ён стаіць у парку імя Каралевы Алены, у цэнтры, побач з будынкам беларускага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча. Гэта драўляная скульптура беларускага мастака Анатоля Туркава. Помнік быў адкрыты тут у IV Дні культуры і славянскага пісьменства «Пралог» 20 мая 2018 г. Гэта драўляная дубовая статуя, на якой можна ўбачыць, сярод іншых, караля Жыгімонта II Аўгуста разам з дэлегатамі Бельскага сойма, уключаючы віленскага біскупа Валяр'яна Пратасевіча, князя Мікалая Радзівіла «Чорнага», гетмана Мікалая Радзівіла «Рудога», Рыгора Хадкевіча, падляшскага ваяводу Васілія Тышкевіча, князя Канстанціна Астрожскага, князя Юрыя Алелькавіча-Слуцкага, навагрудскага ваяводу Паўла Сапегу, віцебскага ваяводу Стэфана Збаражскага. Мастак выразаў панараму старога горада Бельска з надпісам «Вялікі Сойм Вальны Бельскі», герб горада (старую пячаць). Пад гербам высечаны надпіс «Бельскі Прывілей» на дзвюх мовах — польскай і старабеларускай. Над выявай караля Жыгімонта II Аўгуста знаходзіцца герб Вялікага Княства Літоўскага — Пагоня, а пад ім надпіс «II Статут Вялікага Княства Літоўскага».



Жыхары, якія прынялі ўдзел у гэтым мерапрыемстве, пра Бельскі сойм маглі даведацца больш у публічнай дыскусіі, падрыхтаванай з удзелам гісторыкаў. Доктар Генадзь Семянчук тлумачыў значэнне тадышняга Вялікага Сойма:

— У цэлым XVI стагоддзе ў гісторыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы прыносіць шмат вялікіх падзей. Адным з такіх падзей у еўрапейскім маштабе быў генеральны сойм у Бельску ў 1564 годзе, які ўжо тады называлі Вялікім. Прыехала на яго мноства шляхты, галоўныя прадстаўнікі ВКЛ. Вялікі ён у кантэксце рашэнняў, якія былі прыняты на ім. Нарэшце былі завершаны абмеркаванні аб тым, ці трэба стварыць новую дзяржаву, новую федэрацыю, унію Кароны Польскай і Вялікага Княства Літоўскага. Шляхта перамала супраціў арыстакратаў і алігархаў Вялікага Княства Літоўскага. Прыйшло таксама паляпшэнне прававога статусу грамадства ВКЛ, так як былі ўведзены вельмі важныя папраўкі да Статута 1529 года. Наступнае пытанне заключаецца ў тым, што нарэшце скончылася несправядлівасць у асяроддзі шляхты. Праваслаўная шляхта, якая мела такія самыя абавязкамі як каталіцкая, мела менш правоў. Жыгімонт Аўгуст адмяніў гэтыя адрозненні. Важна таксама, што Сойм паказаў, якую вялікую сілу маюць аб'яднаныя Карона Польская і Вялікае Княства Літоўскае, што пазней паказала вайна з Масквой, вядомая як Лівонская вайна».

**«Пралог» для гісторыкаў і аматараў**

— Дні культуры і славянскага пісьменства, — тлумачыў Дарафей Фіёнік, старшыня Музея малой айчыны ў Студзіводах, — гэта перш за ўсё формула адкрытая і шырокая. Гэта спалучэнне пэўных адукацыйных аспектаў трохі з масавай культурай, трохі з навуковым характарам. Гэта эксперымент — мэта якога паказаць як горад, які не мае акадэмічнага цэнтра і культурных устаноў высокай культуры тыпу тэатр, філармонія ці іншых падобных цэнтраў, можа стварыць штосьці са шматахопліваючай культуры, якая адыходзіць. Мы не хочам быць падобнымі на тое, што робіцца часцей. Гэта пэўная альтэрнатыва. «Пралог», Дні славянскага пісьменства і культуры адлюстроўваюць канцэпцыю традыцыйнай культуры. Праз літургічныя ўрачыстасці, навуковыя канферэнцыі і сустрэчы з аўтарамі мерапрыемства прадстаўляе як матэрыяльную, так і нематэрыяльную спадчыну рэгіёна. На чым абапіраемся? Менавіта гэта пісьмовая традыцыя руская, славянская. Гэта вершаваны «Пралог» з 1496 года для нас увесь час маяк, у якім кірунку мы павінны ісці. Гэта кніга жыцій святых у тысячу старонак, спісаная ў Бельску ў XV стагоддзі па заказе бельскага намесніка Солтана Салтановіча. І заўсёды прыгадваецца матыў Вялікага сойма. Сёння гэта нейкае падвядзенне нашых высілкаў, намаганняў, культуратворчых мерапрыемстваў вакол Бельскага сойма на працягу пяці гадоў, таму што мы пачалі ў 2014 г. з вулічнага спектакля *Цуды святога Мікалая*. Я думаю, што чаканне, фармальныя і юрыдычныя выпрабаванні і нягоды толькі спрацавалі на карысць, таму што многа людзей даведалася пра Вялікі сойм, і ўрачыстасць адбылася ў пункце, дзе сапраўды павінна быць. На Вялікім сойме прысутнічалі не толькі палітыкі але і мастакі — прысутнічаў у свіце Мікалая Радзівіла кампазітар эпохі Адраджэння Базіліюс, важная постаць Сойма.

Чацвёрты «Пралог» пачаўся 19 мая ў Грыневічах-Вялікіх, на радзіме прафесара Ігната Даніловіча (1788-1843), у 230-годдзе з дня яго нараджэння. У праграме — шэсце ад царквы святога Ільі ў вёсцы Грыневічы да вёскі Катлы, адкрыццё выставы «Вёска Катлы на Літоўскім гасцінцы» і канцэрт калектываў «Васілёчкі» (Бельск-Падляшскі), «Жэмэрва» (Студзіводы), «Źdźbło» (Гданьск), Рамана Арлова і Кацярыны Поцюс з гурта «У нескладовае» (Мінск) і «Гаманіна» (Мінск). Канцэртам пасля нядзельнай багаслужбы ў Пакроўскай царкве ў Бельску ўсхвалявалі душы «Таўкачыкі» (Кобрын) і хор імя Аляксандра Рашчынскага з Мінска. У Бельскім доме культуры пасля разваг над важнасцю Вялікага сойма бельская прагучалі песні ў выкананні «У нескладовае» і хору імя А. Рашчынскага. На ўсім «Пралогу» спявалі таксама маладыя «Капрыз» і «Жэмэрва».

У Публічнай бібліятэцы ў Бельску адбылася двухдзённая канферэнцыя. Генадзь Семянчук выступіў з дакладам «Новыя крыніцы гісторыі цэркваў у Бельску-Падляшскім у сямнаццатым і васямнаццатым стагоддзях» (крыніцы з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродне). Тамаш Яшчолт зачытаў даклад «Дакумент пергаментавы Жыгімонта Аўгуста для Васіля Сегеневіча з 1555г., з калекцыі Ягелонскай бібліятэкі», навуковец і званарка Алена Шацько — «Званы — душа народа», разам з прэзентацыяй кнігі пра гісторыю і традыцыі царкоўных званоў у Беларусі, Андрэй Мяцельскі — «Манастыр у Лаўрышаве — пачатак яго развіцця». Генадзь Семянчук выступіў таксама з тэкстам «Фундацыя царквы ў Падароску Ваўкавыскага павета», Святлана Сілова з дакладам «Парафіяльнае духавенства ў гістарычнай структуры пасляваеннай Беларусі», Аляксандр Горны з дакладам «Духоўныя з Падляшша ў службе Праваслаўнай царквы на Гродзеншчыне». Ірына Пашчынская выступіла з дакладам «Петаргоф і мае падляшскія карані» ды прадставіла сваю сястру з Лондана Алену Бэзюк-Мілз (пра сустрэчу сёстраў Бэзючанак з радзёй з Крывое праз 120 гадоў — у наступным нумары). Выступілі таксама Антон Мірановіч («Пяценка — малавядомае святое праваслаўнае месца»), Марцін Мірановіч («Адукацыйная дзейнасць праваслаўнага брацтва ў Брэсце XVII ст.»), а. Георгій Рой з Гродна («Праваслаўная парафія ў Накрышках Дзятлаўскага раёна — ад пачатках яе гісторыі»), Аляксандр Вабішэвіч («Парафія св. Міхаіла Архістраціга ў Рублі на Столінскім Палессі, (канец XVII — пачатак XXI ст.»), Уршуля Паўлючук («Гродзенскія ўладыкі ў II Рэчы Паспалітай»), Надзея Самасюк («Праваслаўнае духавенства Заходняй Беларусі ў 1921-1939 гадах»), Валерый Мароз («Манументальныя драўляныя цэрквы — малавядомы тып сакральнага будаўніцтва на Заходнім Палессі» — прэзентацыя новай кнігі), Анатоль Гладышчук («Берасцейскі замак»). Усе даклады будуць надрукаваны ў чарговым «Бельскім гасцінцы».

У наступным годзе на «Пралогу» будзе адзначацца 450-годдзе падляшскага паліграфічнага мастацтва, ад часу Івана Фёдарава, які ў 1569 годзе надрукаваў першую кнігу на Падляшшы.

Тэкст і фота
**Міры ЛУКШЫ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Самыя лепшыя вучні падляшскіх школ!



Мікалай Здрайкоўскі

Мацей Сіроцкі

Ахвотна прымаем удзел у конкурсах ці рознага тыпу спаборніцтвах. Прываблівае нас шанц на атрыманне ўзнагароды ці прызнання сяброў. Прадметныя конкурсы, якія адбываюцца штогадова, дазваляюць таксама праверыць веды па любімым прадмеце. Як аказалася, чытачы «Зоркі» — вельмі добрыя вучні, якія могуць ганарыцца грунтоўнымі ведамі.

24 траўня адбылося ўрачыстае ўручэнне ўзнагарод лаўрэатам і фіналістам прадметных конкурсаў у пачатковых школах. Па-святочнаму апранутыя дашкольнікі атрымалі дыпломы і шчырыя віншаванні ад спадарыні куратар, падляшскага ваяводы ды шматлікіх гасцей, якія з’явіліся на мерапрыемстве. Сярод самых лепшых вучняў пачатковых школ у Беластоку і сёлета былі таксама перспектыўныя маладыя чытачы «Зоркі». Сярод іх Мікола Здрайкоўскі, які стаў лаўрэатам па беларускай мове.

— Я спадзяваўся, што стану лаўрэатам, але шчыра скажу, што тэсты былі страшэнна цяжкімі, — прызнаўся ў час мерапрыемства Коля. — З году ў год тэсты цяжэйшыя. І крыху раней трэба пасядзець, каб паўтарыць сабе матэрыял.

Наогул вучні, якія сталі лаўрэатамі і фіналістамі, адкрыта гаварылі, што не толькі трэба паўтарыць веды перад конкурсам, але проста сістэматычна вучыцца.

— Гэта вельмі вялікая праца, каб падрыхтавацца да конкурсу, — адзначыў фіналіст па беларускай мове і лаўрэат па расійскай мове Мікалай Аўрамюк. — Не толькі ў школе, але і дома трэба пасядзець з кніжкай.

Варта дадаць, што званне лаўрэата дае вучням канкрэтныя выгады. Па-першае, можна трапіць у любую сярэднюю школу па-за конкурсам, а па-другое, конкурсы дапамагаюць у развіцці сваіх зацікаўленняў і падбадзёрваюць да далейшай працы.

З ліку вучняў са школ, у якіх навучаецца беларуская мова, Мацей Сіроцкі са школы свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку стаў лаўрэатам аж трох прадметных конкурсаў.

— Я лаўрэат па матэматычным, інфарматычным і гістарычным конкурсах. Я адчуваю вялікі гонар, што магу сядзець разам з самымі лепшымі вучнямі, — прызнаўся Мацек. Менавіта такія выдатныя хлопцы як ён у час урачыстага падвядзення конкурсаў займалі першы рад крэслаў як адны з самых ганаровых гасцей.

Сёлета ў прадметным конкурсе па беларускай мове было 9 лаўрэатаў і 12 фіналістаў, у тым ліку пяць лаўрэатаў з бельскай «тройкі». Усім віншуем вынікаў і ганарымся такімі здольнымі чытачамі «Зоркі»!

Тэкст і фота
**Улі Шубзды**

Ізабела ГЭЛЬМАН
КШ у Міхалове

## Паклоннік

Чапляецца, мучыць, штурхае,
Забірае пенал, тузае за коску.
Глядзіць у вочы
і кажа што кахае.
Але маё сэрца глухое
і яго не слухае.

Якуб САВІЦКІ
Аседле Бандары
КШ у Міхалове

## Кветкі

Кветкі маёй матулі
ўвесь агарод прыкрылі.
Яны прыгожыя і каляровыя.
Глядзець на іх магу бясконца,
Падліваць іх таксама магу,
Але сарваць іх — не магу!

**УВАГА КОНКУРС!**

**№ 22-18**

**Медныя рогі,
Свінцовыя ногі.
А ўвесь твар акуляр,
у вадзе гаспадар.**
Аква......т

(У. Мацвеенка)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 10 чэрвеня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Загадкі з роднай хаткі**

Адказ на загадку № 18- 2018: зязюля.
Узнагароды, наклейкі, выйгралі Аліўка Порац, Аліўка Жэпко з Нарвы, Вікторыя Гаць, Дам’ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага, Оля Дудзіч, Юлія Клімчук з НШШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, Аліцыя Костыро, Пауліна Лянкевіч з Шудзялава, Кароль Гелда з Бабік. Віншуем!

# Маляванка-калыханка!

Калыханка, пяшчотная песня, пад якую маці закалыхваюць сваіх дзетак. Дзякуючы калыханцы дзіця хутчэй і лягчэй аваладвае роднай мовай, атрымлівае першыя ўяўленні пра навакольны свет, развівае пачуццё моўнага і музычнага рытму.

Яшчэ адносна нядаўна на Падляшшы ўсе матулі або бабулі спявалі малым калыханкі. Найбольш распаўсюджаная ў нас

**«Пра курэй»**

***Люлі-люлі-люлі!***
***Прыляцелі куры,***
***Селі на варотах,***
***У чырвоных ботах,***
***Сталі сакатаці,***
***Не далі паспаці!***

А вось які верш да прапанаванай вам маляванкі напісаў Антон Рудак:

**Калыханка**

Сон ніяк не бярэ, хоць стома
агарнула яшчэ пад вечар.
Паратунак даўно вядомы:
Можна доўга лічыць авечак.
Супакойся, заплюшч вочы —
бо разгадка тваёй таямніцы
дужа простая: сёння ўночы
ты не спіш, каб камусьці
прысніцца.

Размалюйце!



Байкі сярэднявечнай Арменii

# Зайцы і жабы

Сабраліся аднойчы трыццаць зайцоў і сталі наракаць:

— Жыццё ў нас подлае, горкае! Мы ад усіх бяжым, уцякаем, баімося нават свайго духу. Кожны, ці гэта звер, ці птах — хоча нас з'есці. Каму патрэбнае такое няшчаснае жыццё! Давайце лепш пабяжым да мора і разам патопімся!

— Давайце! — згадзіліся зайцы.

І калі яны беглі да мора, па дарозе ўбачылі процьму жаб. А тыя сталі квакаць ды крычаць — і ходу! А калі жабы дабеглі да мора, усе ўскочылі ў ваду, прыхаваліся і не паказвалі віду. Пабачылі гэта зайцы і зразу павесялелі, акрыялі. Яны рашылі не тапіцца, а толькі падзякаваць Богу за тое, што ён падаслаў ім істот слабейшых за іх.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

# Польска-беларуская крыжаванка № 22-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 18-2018:**

Ар, гонар, агарод, ніва, Ас, хата, ара, бал, матыка. Ранак, гіт, гавана, гора, но, абы, парадак, сала.

Узнагароды, карэктары, выйгралі **Магда Якубюк**, **Іаанна Якубюк** з бельскай «тройкі», **Габрыела Крупіч** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, **Габрыела Красько** з Арэшкава, **Аляксандра Іванюк**, **Магда Люнда** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Ігар Тарасэвіч** з Шудзялава, **Каміля Цілюлька**, **Рафал Шумінскі з Бабік**, **Мая Тапалянская** з Нарвы. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Żółty | | | | Czapka | | Czary / Ganek |
| | Sęk | Maur | | Tło / Stóg | Tarot | Krok | | | |
| | Śmiech / Most | | | | | Ara / Sad | | | |
| | Autostop / Opad | | | | | | | | |
| Wtorek | | | | | | | | | |
| Przygoda | | | | | | | | | |
| | | Bierz | | Ja | | | | | |
| Figa | | | | | Lato | | | | |

*Лёс беларусаў Беласточчыны*

# Мама не перажыла развітання з Зачарлянамі

У горадзе Дзятлава на Гарадзеншчыне па вуліцы Макарава ў прыгожым доме жыве Вера Ціхановіч. Ціхановіч — гэта яе прозвішча па мужу, а сапраўднае дзявочае прозвішча жанчыны — Калодка. Вера Калодка родам з вёскі Зачарляны. Там яна нарадзілася ў 1935 годзе.

Калі я запытаўся пра Зачарляны, жанчына заплакала. „Родную вёску мы пакінулі ў 1946 годзе, мне тады было 11 гадоў. Але я добра памятаю той час. Памятаю маму. Яе звалі Марыя. Мама вельмі не хацела пакідаць родных мясцін, плакала дзень і ноч”, — прыгадвае Вера Ціхановіч-Калодка.

працяг 10



■ Перасяленцы з Зачарлянаў у Дзятлаве, 1949 год. Сярод якіх Павел і Ганна Калодкі, Пётр і Надзея Калодкі, Іван і Зіна Калодкі, Сцяпан Калодка з жонкай, Веніямін Грынаш, Сямён і Дар’я Грынашы, Пётр Грынаш (вайсковец), Іосіф і Марыя Калодкі, Мікалай Грынаш, Яўгенія Грынаш, іх дзеці.



■ Калодка Марыя і Іосіф — бацькі Веры Ціхановіч (Калодка). Фота зроблена ў Беластоку, 1930-я гады.



■ Пеця Калодка з Зачарлянаў, 1939 г.



■ Павел Калодка (злева) з Зачарлянаў у Войску Польскім з саслужыўцамі.



■ Грынаш Мікалай з жонкай Яўгеніяй, з маці і дзецьмі з Зачарлянаў, 1933 г.



■ Сям’я Златароў (Злотар) з Зачарлянаў. 1930-я гады



■ Вольга Калодка з Зачарлянаў, Гародня, 14 лютага 1951 года.



■ Мікалай Калодка з Зачарлянаў — родны дзядзька Веры Калодка.



■ Маладыя невядомыя беларусы з Зачарлянаў. На адваротным баку здымка напісана: „На доўгую і добрую памяць сястры Марусі і швагру. 12 красавіка 1936 года”.



■ Іосіф і Марыя Калодкі, Зачарляны, 1939 г.



■ Вера Сохар з Зачарлянаў, 13 ліпеня 1953 года. На другім баку фотаздымка напісана: „Не ў вясёлай бяседзе сябры пазнаюцца. Яны пазнаюцца ў бядзе. Як гора наступіць і слёзы пальюцца — Той друг, хто заплача з табой. І гэта, Верачка, праўда, але лепш будзем смяяцца, а не плакаць. На доўгую памяць лепшай сяброўцы Верачцы К. ад Веры С.”

# За трыдзесяць зямель

Пару тыдняў таму было пра першую частку маёй вандроўкі за трыдзевяць зямель, у Гродзіскую гміну, у Карыціны і Сямёны; цяпер яе прадаўжэнне. Перад Чорнай-Царкоўнай з боку Сямёнаў на абочыне дарогі стаіць крыж. Крыж гэты, паводле Аляксея Валкоўскага, пастаўлены ў 1886 годзе чарнянскім селянінам Андрэем Скроцкім...

Аляксей Валкоўскі быў настаяцелем праваслаўнага прыхода ў Чорнай-Царкоўнай у 1885-1902 гадах. Пакінуў ён пасля сябе адмысловую спадчыну. Гэта ў час ягонай службы ў прыходзе была ўзведзена цяперашняя мураваная царква. І напісаў ён захаваную патомным своеасаблівую манаграфію Чарнянскага прыхода. У „Ніве" ад красавіка 1992 года так пісалі пра яго а. Рыгор Сасна і Дарафей Фіёнік: „У 1886 годзе а. Аляксей з тутэйшым царкоўным апякунствам звярнуўся да гродзенскага генерал-губернатара з просьбай аб асігнацыі на пабудову храма. Адначасова прыхаджане заявілі ахвяраваць ад сябе агульную суму 200 рублёў ды гатоўнасць рабіць усялякія даступныя ім працы (давоз матэрыялаў і г. д.). Губернатар вырашыў пасланць асобу для агляду месца планаванай пабудовы. Справу асігнацыі сам вырашыць не мог, была яна накіравана да Свяшчэннага Сінода. І тут усё зацягнулася да 1899 года. Дзевяностыя гады XIX ст. былі цяжкімі для сялян. У прыхадской хроніцы тадышні настаяцель запісаў: 1891 — няўрод; 1893 — эпідэмія халеры; 1893 — агульны эканамічны крызіс, паніжэнне цэнаў на сельскагаспадарчыя прадукты; 1897 — зноў няўрод і голад. Некалькі сем'яў у пошуках зямлі і лепшага лёсу выязджаюць у Сібір. Да 1899 года камплектуецца дакументацыя новай чарнянскай царквы. У 1899 быў зацверджаны праект храма, аўтарства гродзенскіх архітэктараў Івана Плотнікава і Лявонція Жаваранкава. Важнейшым актам падрыхтоўкі было благаслаўленне епіскапа гродзенскага і брэсцкага, дадзенае 17 ліпеня 1900 г. З вялікім энтузіязмам будаўнічыя храма прыступілі да работ. Ужо перад прыхадскім святам Пакрова Божай Маці 1901 года быў устаноўлены, рэдкі сярод цэрркваў Падляшша, трохрадавы іканастас (работы майстра-іканапісца і пазалотчыка Пятра Гілевіча з Віцебшчыны). Храм быў высвечаны ў тым жа 1901 годзе. Вялікі па памерах, з пяццю купаламі і высокай званіцай, храм стаў упрыгожаннем усёй вёскі. Гэтая царква была галоўнай, але і апошняй справай жыцця а. Аляксея Валкоўскага. Першага лютага 1902 г., 20 хвілін пасля адслужэння Святой Літургіі а. Аляксей неспадзявана памірае. У смерці свяшчэнніка падазравалі псаломшчыка...".

Вікіпедыя: „Pierwsza wzmianka o wsi Czarna Mała (pierwotna nazwa Czarnej Cerkiewnej), nadanej Pretorowi z Korczewa przez Zygmunta Kiejstutowicza, pochodzi z 1434, natomiast informacje o drewnianej prawosławnej cerkwi parafialnej przetrwały dopiero począwszy od 1555. Według źródeł prawosławnych wyniki badań archeologicznych przeprowadzone w II poł. XIX w. na terenie zwanym przez miejscowych cerkwiskiem, położonym ok. 1 km na północny wschód od Czarnej Cerkiewnej, pozwalają jednak domniemywać, że nawet w XI w. istniała w tym miejscu osada z cerkwią, dzwonnicą i cmentarzem".

Пра Цэрквіска Аляксей Валкоўскі напісаў так: „Къ северо-востоку отъ села Чарны — въ разстояніи одной версты — среди полей принадлежащимъ крестьянамъ села, находится возвышенность, имеющая вверху продолговатую площадку. Этотъ холмъ известенъ подъ названіемъ Церквиска. Уже одно название прямо указываетъ, что здесь некогда должна была быть Православная Церковь. Действительно, въ народномъ преданіи, хотя смутно, но въ то же время верно живетъ представленіе о томъ, что здесь — на продолговатой площадке — некогда была церковь, и на рядомъ лежащемъ въ 5-6 шагахъ къ западу кругломъ холмике была колокольня. Объ исчезновеніи сей церкви въ народе разсказывается следующая легенда. Въ светлый праздникъ пошла одна женщина въ полночь къ заутрени въ церковь (женщина эта была злая колдунья) и дорогой она упала въ грязь, и, отряхивая съ себя и съ платья своего грязь, она со злостью закляла церковь: „Бодай она се запала, якъ я се поваляла" (выпачкалась). И вотъ по ея злостному слову церковь та навсегда сокрылась въ недра земли (пошла подъ землю). И до сихъ поръ прибавляетъ народная легенда, если приложить ухо къ земле въ святую ночь предъ светлымъ праздникомъ, слышно, какъ звонятъ и поютъ тамъ подъ землею".



Крыж каля Чорнай-Царкоўнай з боку Сямёнаў



Царква ў Чорнай-Царкоўнай



Касцёл у Далубове

Назву вёсак Чорная-Царкоўная, Чорная-Сярэдняя і Чорная-Вялікая аўтар выводзіць ад багацця ў наваколлі лясоў, ад чаго ўсё здаецца быць цёмным і чорным, хаця ў той час лясы там інтэнсіўна высякаліся дзеля продажы драўніны ў замежжа.

Прыходская вёска распаложана на раўніне, як пісаў Аляксей Валкоўскі, па простай лініі з паўднёвага ўсходу на паўночны захад. Раўніна ў паўднёвым напрамку крыху паніжаецца, утвараючы даліну, па якой цячэ рэчка Чорная, інакш называная Хітрай. У той час, каля 130 гадоў таму, яна, Хітрая, вясною і восенню разлівалася, нават на паўкіламетра шырыні, прынагодна зносячы ўсе на ёй масты. Да Чарнянскага прыхода належалі суседнія вёскі: Чорна-Сярэдняя, Казлова, Мяжынаўка, Сямёны, Спешын, Карыціны. „Сярод жыхароў найчасцей выступалі тады такія рэдкія ў нашых ваколіцах прозвішчы: Кобус, Чабан, Годун, Канюка, Міронка. Нячастымі з'яўляліся прозвішчы з канчаткамі -ук (Амельчук, Міхальчук, Петрук). Такія прозвішчы могуць сведчыць пра асаблівасці паходжання тутэйшых жыхароў", — пісалі а. Рыгор Сасна і Дарафей Фіёнік.

Царкоўнае жыццё несла на сабе адбітак сваіх месца і часу. Непадалёку царквы была карчма, пра якую Аляксей Валкоўскі пісаў так: „Гэта найбліжэйшы ад царквы будынак і з'яўляецца галоўным злом прыхода ў рэлігійна-маральным аспекце. Закрыць карчму складана таму, што яна намінальна не лічыцца карчмой, таму што жыд таргуе ў ёй гарэлкай беспатэнтна і сакрэтна. Ды і самі сяляне глядзяць на карчму надта прыхільна і некалькі радоў сваімі хлусlівымі сведчаннямі выручалі жыда ад суда за беспатэнтны гандаль. У кожнай вёсцы ёсць яўная або сакрэтная карчма, а часам і абедзве разам. Але гэта тлумачыцца не цягай народа да п'янства, але бесцырымонным нахабствам жыдоў. У кожнай вёсцы жыд селіцца спачатку сакрэтна, амаль заўсёды насуперак жаданню народу пад нявінным выглядам нейкага майстра (каваля, фарбавальніка і т.п.). А як толькі там усталюецца, зараз становіцца і карчмаром, і скуплялнікам усяго сялянскага дабра...".

Чарнянскія прыхаджане часта паломнічалі ў Гадышэва на першы дзень Тройцы або Успенне, заносячы туды розныя ахвяраванні. А ў свята Праабражэння — на Гару Грабарку. На Антонія паломнікі падаваліся ў Боцькі. У іншыя прыхадскія святы падаваліся ў суседнія царкоўныя мясцовасці.

— Людзі верылі ў існаванне чараўнікоў, — пісаў Аляксей Валкоўскі, — якія маглі нарабіць шмат бяды, напрыклад адняць малако ў каровы або накінуць каму хваробу. У такіх чараўнікоў пасля іхняй смерці пух язык і вылазіў навонкі. Чаравалі яны зеллем або магільнымі касцямі і людзі іх не паважалі. Затое паважалі знахараў і гадалак. Замовы былі ад шматлікіх хвароб: вывіху, рожы, зубнога болю, шаленства... Павук, які сходзіць і ўзыходзіць па павуцінні, збірае людскія грахі і даносіць іх Богу, то яго трэба біць...

У 1838 годзе прыход налічваў 571 чалавека, у 1880 годзе 857 душ, у 1890 годзе 1012 вернікаў, у 1905 годзе 1150 чалавек. Мяняніся межы прыхода, мяняўся і лік вернікаў, для прыкладу, у 1923 годзе было ў ім 1992 душы, у 1935 годзе 2551 асоба, у 1941 годзе 1153 асобы. У 1992 годзе ў прыходзе было 402 праваслаўных вернікаў у 160 дамах; зараз, як паведаміў мне настаяцель, гэтыя калькасці паменшалі напалову. Прыхаджане жывуць галоўным чынам у Чорнай-Царкоўнай, Чорнай-Сярэдняй, Казлове, а найдалей — у Малышчыне і Галёнках.

Менавіта ў бок Галёнак задумаў я падацца далей, а дакладней — у бок Пухалаў-Старых, каб наведаць месца, дзе ў 1946 годзе атрад „Бурага" забіў трыццаць вазакоў з вёсак тадышняга Бельскага павета. Аднак супраціўны паўночны вецер не дазволіў мне на падарожжа ў той бок. Мяркую, што ўдасца мне гэта нейкім чарговым разам...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

8 ☞працяг

# Мама не пражыла развітання з Зачарлянамі

Бацька Веры — Іосіф Калодка — быў майстрам на ўсе рукі. Ён пабудаваў прыгожы новы дом у Зачарлянах. У новым доме беларусы пражылі толькі тры гады. „Мама была самая шчаслівая ў новым доме. Ёй так падабалася там жыць, што нам здавалася, што яна радуецца больш за ўсіх нас, і вельмі цешылася, калі мы перасяліліся ў гэты новы, прасторны і светлы дом. А ў мяне яшчэ былі сястра Ліда і брат Пеця. І калі нас польскія банды сталі выганяць з роднай вёскі, больш за ўсіх перажывала мама. Я сёння ўсё гэта свядома пераасэнсоўваю, успамінаю і мне становіцца так шкада мамы. Тады я менш гэта ўсё разумела”, — успамінае Вера Калодка.

У сакавіку 1946 года сям'я Калодкаў і іншыя вяскоўцы пакінулі Зачарляны. Па ўспамінах спадарыні Веры, для кожнай беларускай сям'і выдаткавалі вагон у цягніку. Беларускія сем'і ў свой вагон грузілі ўсё прыватнае хатняе багацце: коней, кароў, свіней, курэй — усё, што можна было ўзяць — бралі з сабой. „Але перад тым, як мы павінны былі пакінуць сваю сядзібу, прыходзілі паляк і вымяралі нашу прыватную зямлю, зрабілі апісанне маёмасці і г.д. І выдалі кожнай сям'і дакументы, дзе было напісана, колькі дабра мы пакідаем у Польшчы. Вядома ж, з надзеяй, што ў Беларусі нам усё кампенсуюць”, — распавядае Вера Калодка.



■ Вера Ціхановіч (Калодка) з Дзятлава распавядае пра Зачарляны

— Вы селі ўсёй сям'ёй у цягнік і паехалі на ўсход Беларусі. Так?

— Так, кожная сям'я заняла свой вагон. Нас з Зачарлянаў і з суседніх вёсак беларусаў было шмат. З Беластока мы прыехалі на Дзятлаўшчыну на станцыю Наваельня. У цягніку нам сказалі, што нас паселяць у Дзятлаве. Я добра запомніла гэты горад — Дзятлава, ад слова дзяцел. З Наваельні нас прывезлі ў Дзятлава і засялялі ў пустыя дамы палякаў, якія па ўласным жаданні пакінулі Дзятлава і выехалі ў Польшчу, а нас адтуль выганялі сілай. Некаторых сялілі ў пустыя дамы, дзе раней жылі яўрэі, якіх немцы расстралялі, ці якія зніклі падчас вайны. Мы пасяліліся па вуліцы Чапаева ў Дзятлаве.

— Ці былі з вамі яшчэ сем'і з Зачарлянаў?

— Вядома ж былі і шмат. Не толькі з Зачарлянаў, але і з Бацютаў. Тады на Дзятлаўшчыну нас прыехала вельмі многа. Сярод усіх было шмат сваякоў, якіх пасялялі не толькі ў Дзятлаве, але і ў суседніх вёсках.

— Ці ўсе беларусы пакінулі родныя вёскі?

— Не, не ўсе. Напрыклад, Мікалай Калодка з Зачарлянаў не паехаў. А дваіх Калодкаў прыехалі. Дык Мікалая там хутка забілі. Бандыты развешвалі такія лістоўкі: „Едзьце да Сталіна, а тут Польшча ад мора да мора”.

— І як вам жылося на Дзятлаўшчыне?

— Па-рознаму. Мама часта плакала і ўспамінала Зачарляны. Яна не змагла перажыць развітання з роднай вёскай і ў 1952 годзе памерла. Ёй было толькі 47 гадоў. Тата ўладкаваўся будаўніком. Але таксама пражыў няшмат, усяго 69 гадоў.

— Ці падтрымлівалі вы пасля вайны адносіны са сваімі землякамі і сябрамі, якія там засталіся?

— Усё жыццё перапісвалася і нават сустракалася са сваёй сяброўкай з Зачарлянаў Верай Сохар. Яна была сірата. Бо маці трапіла ў нямецкі канцлагер, а калі палонных вызвалілі савецкія войскі, маці моцна наелася і памерла. Бацькі таксама рана не стала. Але яна выгадавала сына, які цяпер жыве ў Беластоку. Гэта была цудоўная сяброўка. Яна ўжо памерла[1].

— А ваш як склаўся лёс?

— Добра. Я цяпер на пенсіі. Скончыла Гарадзенскі педінстытут, працавала настаўніцай. Усё жыццё мы тут, беларусы Беласточчыны, ведалі адзін аднаго і падтрымлівалі сувязі. І працягваем гэта рабіць і цяпер. Вядома ж, шмат ужо старэйшых людзей з Зачарлянаў і з Бацютаў памерла, але жывем мы — іх дзеці і ўнукі. І заўсёды з радасцю ўсіх прыгадваем і ўспамінаем тое, што з маленства засталося ў памяці.

❖Сяргей ЧЫГРЫН

**Архіўныя здымкі друкуюцца ўпершыню.**

[1] Вера Сохар (па мужу: Папова) працавала ў Беластоцкай тыпаграфіі наборшчыцай «Нівы».

ВІТАЕМ ВАС

## http://theatre.histmuseum.by

Звычайна ў другой палове мая ў розных краінах праходзяць так званыя „ночы музеяў”. Ад вечара да прыкладна сярэдзіны ночы ўсе жадаючыя могуць задарма наведваць музеі, слухаць расповеды захавальнікаў скарбаў, глядзець на выстаўленыя экспанаты. Задума абвяшчаць „ноч музеяў” даволі карысная, бо прыцягвае людзей, якія з-за надзвычайнай занятасці ці з-за нежадання плаціць за квіток, зайсці нарэшце ў музей і ўзбагаціцца духоўна. Некаторыя музеі нават апранаюць сваіх супрацоўнікаў у адзенне мінулых часоў альбо нават разыгрываюць разнастайныя сцэнічныя пастаноўкі. У Беларусі ж ёсць музей, дзе тэатральнасць пастаўлена на самае галоўнае месца. Гэта Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры.

Сайт музея месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://theatre.histmuseum.by. Паколькі ўстанова з'яўляецца філіялам Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі, то дадзены сайт адрозніваецца ад сайтаў іншых музейных структур, як напрыклад Музея сучаснай беларускай дзяржаўнасці, толькі зместам — будовы ва ўсіх абсалютна аднолькавыя.

„Экспазіцыя музея прысвечана такім тэмам, як вытокі тэатральнай і музычнай культуры на землях Беларусі, фарміраванне нацыянальнай прафесійнай тэатральнай і музычнай культуры ў XIX стагоддзі, тэатр і музыка Беларусі ў XX стагоддзі. Асноўную экспазіцыю дапаўняюць мемарыяльныя пакоі, прысвечаныя творчасці выдатных майстроў беларускай сцэны. У музеі пастаянна арганізоўцца разнастайныя выстаўкі, праводзяцца культурныя мерапрыемствы”, — распавядаецца на галоўнай старонцы музейна-тэатральнага сайта.

Таксама там паведамляецца пра існуючыя напрамкі прадстаўлення гледачам экспанатаў музея. Гэта, найперш, сталая экспазіцыя. Яна знаёміць наведвальнікаў з гісторыяй развіцця тэатральнай і музычнай культуры Беларусі ад часоў ранняга Сярэднявечча да нашых дзён. Акрамя таго, у экспазіцыі прадстаўлены звесткі пра яркіх і славутых майстроў нацыянальнай сцэны.

На выставах і розных мерапрыемствах музей знаёміць з гісторыяй беларускага тэатра і музыкі, з цікавымі персаналіямі, паказвае розныя бакі нацыянальнай і сусветнай культуры. А вось падчас экскурсіі наведвальнікі могуць пабачыць сапраўдную беларускую батлейку.

Уверсе цэлага выяўлення знаходзяцца выйсці на старонкі і рубрыкі сайта. У адной з падрубрык рубрыкі „Музей” мы можам пазнаёміцца з яго гісторыяй. Адтуль віртуальны наведвальнік даведаецца, што гэтая ўстанова з'явілася ў апошнія гады існавання Савецкага Саюза, калі ў Беларусі адбываўся рост нацыянальнай самасвядомасці. „Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь быў створаны ў горадзе Мінску 23 сакавіка 1990 года. Першапачаткова ён размяшчаўся ў будынку па вуліцы Старавіленская, 14 (сёння там знаходзіцца адзін з двух філіялаў музея — „Гасцёўня Уладзіслава Галубка”). У 2001 годзе музей пераехаў у спецыяльна адрэстаўраваны для яго будынак, па Музычнаму зав., 5”, — распавядаецца ў „Гісторыі музея”.

Нягледзячы на тое, што музей створаны адносна нядаўна, аб своечасовым абнаўленні сайта яго супрацоўнікі дбаюць не вельмі рупліва. Так, колькасць экспанатаў — каля 25 тысяч прыведзена на канец 2011 года. А апошняй значнай падзеяй з расповеду пра гісторыю музея можна лічыць снежаньскае 2014 года ўключэнне яго ў Нацыянальны музей гісторыі.

❖Аляксандр ЯКІМЮК

ДАТА З КАЛЕНДАРА

Падзеі і асобы БНР



# 50 гадоў з дня смерці Францішка Кушаля

У траўні гэтага года споўнілася 50 гадоў з дня смерці Францішка Кушаля, беларускага ваеннага і палітычнага дзеяча, публіцыста, вядомага таксама тым, што ён быў мужам знакамітай беларускай паэткі Наталлі Арсенневай. Афіцыйная гістарыяграфія Рэспублікі Беларусь дагэтуль ацэньвае Кушаля выключна аднназначна адмоўна, як калабаранта, у беларускіх гісторыкаў і патрыётаў больш шырокі погляд на гэтую асобу. Уладзімір Арлоў напісаў, што гэта быў чалавек, які „усё сваё жыццё імкнуўся стварыць нацыянальнае войска як галоўную гарантыю незалежнасці краіны”.

Нарадзіўся Францішак Кушаль 16 лютага 1895 г. у мястэчку Пяршай (сучасныя Пяршаі Валожынскага раёна). Паходзіў з сям'і Вінцэнта Кушаля. Яшчэ ў школе распаўсюджваў „Нашу ніву” сярод равеснікаў, у Івянцы стварыў моладзевую беларускую суполку. Францішак Кушаль у 1916 г. скончыў Віленскую пяхотную вучэльню, накіраваны на Заходні фронт. Быў камандзірам роты расійскага войска ў чыне штабс-капітана. У лістападзе 1917 г. пасля двух раненняў пакінуў расійскую армію і вярнуўся ў родныя мясціны.

У 1919 г. арыштаваны тагачаснымі польскімі ўладамі за беларускую дзейнасць, у тым ліку за распаўсюд улётак і літаратуры. У 1919-1921 гг. уваходзіў у Беларускую ваенную камісію. З 1922 г. — на службе ў Войску Польскім. У час Польскай абарончай вайны 1939 года камандзір батальёна, удзельнічаў у баях у раёне Львова. 22 верасня 1941 г. інтэрнаваны ў Савецкі Саюз.

Разам з іншымі польскімі афіцэрамі Францішак Кушаль трапіў у Старабельскі лагер (цяпер Луганская вобласць, Украіна) для польскіх афіцэраў-ваеннапалонных, дзе ўтрымлівалася 4 тысячы чалавек. Амаль усе зняволеныя былі расстраляныя. Аднак Кушаль разам з яшчэ некалькімі афіцэрамі расстраляны не быў, а быў перавезены ў Бутырскую турму, дзе быў у зняволенні разам з высокапастаўленымі польскімі ваеннапалоннымі, у тым ліку ў адной камеры з генералам Уладзіславам Андэрсам. У пачатку 1941 года вызвалены. Адначасна яго жонцы Наталлі Арсенневай было дазволена вярнуцца са ссылкі. Гэтыя акалічнасці далі падставы меркаваць, што ў лагеры Кушаль быў завербаваны НКВД. Пасля вызвалення адпраўлены ў Беларусь, дзе з пачаткам савецка-германскай вайны адразу перайшоў на бок немцаў.

Са снежня 1941 г. Кушаль стаў начальнікам падафіцэрскай беларускай школы паліцыі ў Мінску. З ліпеня 1942 г. — галоўны ваенны рэферэнт (кіраўнік курсаў перападрыхтоўкі афіцэраў) у Беларускім корпусе самаахвовы. Сын Францішка Кушаля і Наталлі Арсенневай — Яраслаў Кушаль загінуў ад выбуху закладзенай савецкімі партызанамі бомбы, у мінскім тэатры падчас прадстаўлення. У снежні 1943 г. Францішак Кушаль уведзены ў склад Беларускай цэнтральнай рады, прызначаны начальнікам аддзела ваенных спраў. З сакавіка 1944 г. — шэф галоўнага камандавання Беларускай краёвай абароны. Удзельнічаў у выданні часопіса „Беларус на варце”. З 1944 г. у Германіі. У 1947 г. у Нямеччыне заснаваў Аб'яднанне беларускіх ветэранаў. Потым пераехаў у ЗША.

У 1952-1954 гг. Кушаль узначальваў Беларуска-Амерыканскае задзіночанне, удзельнічаў у выданні яго газеты „Беларус”. Адзін з заснавальнікаў газеты „Бацькаўшчына”. Выступаў у друку з публіцыстычнымі матэрыяламі (таксама па пытаннях ваеннай гісторыі Беларусі), аўтар успамінаў пра дзеячаў беларускай культуры.

Памёр Францішак Кушаль 25 траўня 1968 г. у Рочэстэры (штат Нью-Ёрк, ЗША).

❖Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Юбілей нараўчанскай бібліятэкі

Сёлета Самаўрадавай публічнай бібліятэцы ў Нараўцы Гайнаўскага павета пайшоў сямідзясяты год. Я таксама быў яе чытачом у 1994-1995 гадах. Я тады рэдагаваў мясцовы штомесячнік „Над Нараўкай”. Бібліятэкаркамі працавалі Марыя Урбановіч і Анна Стульгіс. Бібліятэка займала першы паверх новапабудаванага Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы і ў ім змяшчалася рэдакцыя вышэйзгаданай газеты. У Нараўцы было шмат чытачоў і многа кніжак. Тут былі газеты і часопісы, у тым ліку беларускі штотыднёвік „Ніва”.

Ішлі гады і вось на 21 красавіка гэтага года назначылі дзень урачыстасці з нагоды 70-гадовага юбілею бібліятэкі ў ГАК. Пра яе гісторыю змястоўна распавяла Анна Стульгіс. Пасля былі віншаванні ад Мікалая Павільча — войта Нараўчанскай гміны, Андрэя Скепкі — намесніка бургамістра Гайнаўкі, Алы Грыц — дырэктаркі Гарадской публічнай бібліятэкі ў Гайнаўцы, Галены Рээнт — дырэктаркі ГАК у Нараўцы і гмінных радных. У мастацкай часткі выступіў маладзёвы танцавальны калектыў Дома культуры „Сьрудмесце” ў Беластоку.






Затым госці мерапрыемства перайшлі ў святліцу побач ГАК. Тут быў пачастунак, між іншым, торт і кава. Былыя бібліятэкаркі Вольга Паньkoўская, Крыстына Дрозд і Валянціна Сухадола ўспаміналі шматгадовую бібліятэкарку Зыту Савіцкую ды свае гады працы і некаторых пастаянных чытачоў.

Канстанцін Целушэцкі з Новага Ляўкова прачытаў свой верш, прысвечаны юбілею нараўчанскай бібліятэкі і іншыя вершы на беларускай мове. Панавала цёплая, мілая і сардэчная атмасфера.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

*Юрка БУЙНЮК*

## *Майму Бацьку — 70*

*Вы, тата, нарадзіліся ў 1948 годзе*
*У сям'і маіх дзядоў Марыі і Валодзі.*
*Вам дадзены ад Бога вялікі дар —*
*Вы вельмі добры гаспадар.*
*Ідзе цэлая вёска Вас прасіць*
*Заараць, пасеяць, пасадзіць ці скасіць,*
*Часам з лесу дровы прывезці.*
*Таму што бацька амаль месяць*
*У сваіх гаражах трактар і ўсе машыны.*
*Цераз сваю працу не мае хвіліны.*
*Адпачынкам тэлебачанне ёсць,*
*ТВ Саюз — у нашай хаце госць,*
*Часам тата пачытаюць кнігу.*
*«Вучыцеся дзеткі, а то фігу*
*Будзеш мець; без працы*
*Няма грошай ды калачоў» —*
*Так бацька мяне з сястрою вучылі,*
*І каб Бога ніколі не забылі,*
*Каб хадзілі маліцца ў царкву,*
*Каб працавітую жыцця вясну*
*Мелі заўсёды ў жыцці*
*Найвышэйшыя бацькі.*
*А я ў тата моцна веру,*
*Гэта праз вялікую літару,*
*Бацька мой дарагі*
*Многа лет нам жыві!*

***Малінікі, 19.06.2018***

## Гаспадарка нечыстотамі ў Чаромхаўскай гміне

На тэрыторыі Чаромхаўскай гміны вывазам нечыстотаў займаюцца два камунальныя прадпрыемствы — МПО з Беластока і ПУК з Гайнаўкі. Кошт вывазу вызначаны быў у выніку таргоў. У 2017 годзе вываз каштаваў 196 727,40 зл. У гміне пражывала 3257 жыхароў у 1140 гаспадарках, у тым ліку ў 176 жылых карпусах і ў 964 аднасямейных дамах. Селектыўную зборку (сартаванне смецця) дэкларавала 374 гаспадарак, а 766 — змешаную. Рада гміны ўстанавіла месячны стаўкі для селектыўнай зборкі 13 зл. і 18 зл. для змешанай. У гмінную касу паступіла 223 534,36 зл. Запазычанасць у канцы года складала 12 331,58 зл. Вываз смецця адбываўся раз у месяц з аднасямейных гаспадарак і два разы з жылых карпусоў. Гміна арандуе ў камунальнай фірме камплектаў кантэйнераў, за што плаціць 5 443, 20 зл. У Чаромсе па вуліцы Дзібуа змяшчаецца пункт прыёму адкідаў, дзе можна здаваць рознага віду непатрэбшчыну — металічную ўпакоўку, старыя аўтамабільныя шыны, паперу, пластмасавыя вырабы, аб'ёмістыя прадметы, старыя акумулятары, электрапрыборы і т.п.

Гайнаўскае прадпрыемства камунальных паслуг у мінулым годзе абслугоўвала 1140 заселеных гаспадарак, а МПО з Беластока вывозіла адыходы з 36 незаселеных сядзіб. Сістэма гаспадаркі адкідамі ў Чаромхаўскай гміне функцыянуе правільна. Прыбытак ад аплаты жыхарамі гміны за гаспадарку адыходамі поўнасцю пакрывае кошт вывазу адкідаў з тэрыторыі ўсяе гміны.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Адгаданка

**Адгаданка**

1. найдрабнейшая часціна хімічнага элемента з ядра і электронаў, 2. хворы, які ў глыбокім сне можа хадзіць і падсвядома выконваць розныя дзеянні, 3. месяц з найдаўжэйшым днём, 4. член блізкага роду, родзіч, 5. між Прыбалтыкай і Украінай, 6. між Сірыяй і Іранам, 7. інструмент трубача, 8. вадзяны вал ад гайдання акваторыі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | | | 2 | 3 |
| | | | | | | | | |
| | 4 | | | | | | | |
| 5 | | | | | 6 | | | |
| 7 | | | | 8 | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 19 нумара**

Авёс, Азія, Гімалаі, госць, джут, кірха, конус, мезенец, чай, Чылі, Юта.

Рашэнне: **І кнігі маюць свой лёс у залежнасці ад таго, як іх разумее чытач**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 03.06 — 09.06

**(22.03. — 20.04.)** Пакажаш свае добрыя рысы. 4-6.06. цікавая кампанейская сустрэча. У пачуццях час добрых выбараў. На працы, калі выкарыстаеш шанц, які прытрапіцца табе 2-3 чэрвеня, апынешся сярод пераможцаў і на ўвесь месяц. Сягай вышэй! Вялікая здольнасць да рэгенерацыі. Арганізм добра зрэагуе на новыя курацыі і лекі.

**(21.04. — 21.05.)** Вялікія ўдачы ў фінансах 2-3.06. Будзеш больш упэўнены ў сабе і зухаваты. Закончыш плыткія флірты. Забудзеш аб любоўных паразах, час спрыяе таксама сур'ёзным рашэнням. Разлічвай на знаёмых. Больш займіся занядбанымі блізкімі. На працы шмат абавязкаў. Усё дакладна плануй. Навука пойдзе лёгка. Зробіш нейкія папраўкі, якія дадуць палёгку ў працы. Можаш рызыкнуць з выбарам новай працы. Пільнуйся на дарозе, не спяшайся. 4-8.06. хтосьці можа схацець заняць тваю пасаду!

**(22.05. — 22.06.)** Час спрыяе смелым, творчым задумам. Ажыўленне, прыліў энергіі, але будзеш крыху санлівы, можаш наракаць, што няма нічога цікавага. 5-9.06. можаш адчуць патрэбу дапамогі ад партнёра. 5-9.06. не захапіся кімсьці бесталковым. Лагодзь сямейныя канфлікты. На працы парабі ўсё, што адкладзена, бо ўжо каля 5.06. атрымаеш новыя заданні, патрабуючыя стараннасці. Форма някепская.

**(23.06. — 23.07.)** Шчасце спрыяе, не думай аб турботах. Больш адкрытасці ў кантактах. Рамантычны час. 2-3.06. будзеш захапляць, асабліва такіх асоб, якіх будуць табе зайздросціць! Новыя знаёмствы і добрая забава. Пільнуйся 4-8.06. — не захапіся неадпаведнай асобай. Пакажашся перад шэфам. На ногі станеш у апошняй дэкадзе месяца, пакуль адпачывай, высыпайся. Вельмі дбай аб ступакі.

**(24.07. — 23.08.)** 2-3.06. удадуцца любоўныя і іншыя сустрэчы. 4-6.06. будзеш мець цікавую прапанову. 5-9.06. не спазняйся і нічога не забывай, бо праваронiш вельмі важную справу. Новыя знаёмствы, інтэлігентныя дыскусіі. У пастаянных парах ідылія і зразуменне. Дома пара на парадкі. На рабоце не будзе на цябе моцных, але нічога не рабі дарма. Асабліва прыбыткова ў гандлі. Еж арэхі, кашу, лён.

**(24.08. — 23.09.)** Здабудзеш саюзнікаў і аформіш кожную справу. Сустракайся. Дасканала сарганізуеш час, захаваеш жыццярадаснасць, будзеш мець сімпатыю атачэння. Важныя сямейныя абавязкі. На рабоце ці ў школе ўзнагарода толькі за цяжкую працу. Нагода, якая паявіцца 5-7.06., не вартая зацікаўлення. Горш са здароўем, пільнуйся асабліва 5-9.06.; хваробу ўбачыш на твары.

**(24.09. — 23.10.)** Зоймешся парадкамі дома і будаваннем моцнай пазіцыі на працы. З'яднаеш сабе сімпатыкаў. Будзеш поўны красы, мілавіднасці. На працы варта змабілізавацца, каб пазбегнуць пастак. 4-8.06. не парывайся на зашмат. 5-7.06. можаш стаць ахвярай інтрыгі. Рух здалёк ад халадзільніка! А пахудзець можна і на танцах!

**(24.10. — 22.11.)** Паправяцца адносіны з сям'ёй і каханай асобай. Выйграныя спрэчкі. Пазбегнеш фальшывых крокаў (секстыль Плутона). Марс раіць зважаць на здароўе. 2-3.06. зоркі падкажуць табе заснаваць сям'ю (асабліва калі ты з II дэкады). Паможаш іншым. Але сямейная імпрэза 4-8.06. можа кончыцца несусветнай авантурай! 4-8.06. будуць турбаваць цябе нямілыя табе аматары. Ведаеш каму давяраць на працы. Але цяжка будзе працаваць у атмасферы недаверу. Старайся працаваць адзін. Не апарся, не апячыся, таксама на сонцы.

**(23.11. — 22.12.)** 2-3.06. можаш зрабіць выдатны інтарэс! Але 5-7.06. не дай сябе абмануць і выкарыстаць. Многа працы, але настрой будзе папраўляцца. Не патрабуй зашмат ад сябе і іншых. А да 11.06. можаш здабыць большыя грошы! Знойдзеш партнёра да розных гульняў. Не задумайся, што шэф ці кліент маюць на думцы, гэта можа давесці цябе да памылак (5-9.06.). Пільнуй рэцэптаў.

**(23.12. — 20.01.)** Не сумнявайся, не страчвай веры ў свае сілы. Дасі рады ў цяжкіх сітуацыях. Зоркі памогуць табе ў прафесійных заданнях і сардэчных турботах. Але 5-7.06. могуць выявіцца справы, якія ты хацеў бы схаваць. Не будзеш мець шанцу ў каханні (прынамсі да паловы месяца). Дома згода і гармонія, але не муштруй сям'і. На працы многа абавязкаў, плануй час. 4-8.06. будзь як найдалей ад рызыкоўных «лёгкіх заробкаў».

**(21.01. — 19.02.)** Дзейнічай хутка і рашуча. Запал, энергія, кемлівасць — відны поспех. 2-3.06. лёгка вырашыш складаныя праблемы. Ты ўвесь месяц як магніт для іншага полу. Але не кожны знаёмы гэта сябра. На працы адпылі старыя праекты. 4-6.06. можаш лёгка здабыць саюзнікаў. Вадалей з III дэкады: не адмаўляйся ад службовых паездак. Вадалеі з II дэкады: абследуйце сваё сэрца.

**(20.02. — 21.03.)** Разбураны спакой, але дасі рады запанаваць над эмоцыямі. Блізкасць паміж каханымі, самотныя кімсьці захопяцца. Шмат рамантычных хваляванняў 2-4.06. Любоў не глядзіць у метрыку! 4-6.06. паробіш змены дома. На працы работа няўдзячная і з не вельмі прыемнымі людзьмі. Засяродзься выключна на сваіх абавязках. Пільнуйся ад дзіўных тэлефонаў і эсэмэсак, лепш на іх не адпісвай. Дбай аб свае зубы.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Філіпіны
## ч.3. Лусон

Вулкан Маён пускаў хмары дыму, пляваўся агнём і лавай, і палохаў... жыхароў Еўропы. Бадай усе нашы знаёмыя, якія нешта нам у той час напісалі, перш-наперш пыталі пра тое, ці мы бяспечныя. Выбух вулкана заўсёды маляўнічы і добра глядзіцца ў тэлебачанні. Тым не менш філіпінцаў, якія жывуць на адным з больш сейсмічна актыўных абшараў зямлі, такія звыклыя карцінкі не ўражваюць. Таму ў аддаленай дзвесце кіламетраў на поўнач Маніле мы спакойна збіраліся ў паездку на іншы вулкан — Тааль. Сказаць пра яго, што ён актыўны, гэта нічога не сказаць. Сейсмолагі, беручы пад увагу актыўнасць, класіфікуюць яго як другі на Філіпінах і шаснаццаты ў свеце. У 1991 годзе ў выніку выбуху вулкана і яго наступстваў — землятрусу і цунамі на возеры вакол кратара загінула 1400 чалавек. Людзі аднак хутка вярнуліся да сваіх месцаў. А Тааль і яго ваколіцы гэта адна з галоўных турыстычных мэт на Філіпінах. Тым больш атракцыйная, што блізка сталіцы — усяго паўтары гадзіны на аўтобусе.

Перад тым як пакінуць аўтобус у горадзе Тагайтай, Джэф, знаёмы дачкі філіпінец і наш гід, папярэдзіў нас, каб мы выходзілі асобна ад яго. Гэта аблегчыць яму негацыяцыі з уладальнікамі трохколак, якімі трэба з'ехаць па серпанцінах з горада да возера. Калі ўбачаць нас разам, цана адразу пойдзе ўверх. Наша хітрасць нічога нам не дала, хіба толькі тое, што з'елі марожанае ў *Jolly Bee* (філіпінскаму адпаведніку Макдоналдса, пры чым вядомаму ў цэлай Паўднёва-Усходняй Азіі), бо як толькі падышлі да знятага ўжо сродка транспарту, цана з дамоўленых 400 пэса (25 злотых) падскочыла на 600 (40 злотых). Зышліся на 500 пэса.

Каб дабрацца да кратара вулкана, трэба перасесці на лодку, якая завязе на выспу. Там, у сваю чаргу, трэба ўнесці экалагічную аплату і ў мясцовым турыстычным цэнтры зняць гіда і з ім падацца на вандроўку ўверх. Можна пехатою, а можна на худым маленькім коніку, чым і карыстаюцца шматлікія турысты, якія часта важаць мала менш ад таго ж коніка. Ясна, што мы не маглі сабе дазволіць, каб мучыць бедныя стварэнні і вырашылі ўскараскацца на вяршыню на сваіх нагах. І хаця дабраліся туды мокрыя, не шкадавалі. Па дарозе можна было любавацца краявідамі, зблізу аглядаць кветкі і матылі і на сваёй скуры пачуць, як з трэшчын між скаламі выходзіць гарачы вулканічны газ.

Тааль мае арыгінальную форму: возера доўгае на 75 кіламетраў, усярэдзіне якога востраў з гарою, а ў той гары яшчэ адно возера, якое і з'яўляецца кратарам сённяшняга вулкана. Цікава, што з аднаго берага гэтага меншага возера тэмпература вады 120 градусаў па Цэльсію, а з другога каля сарака. Можна купацца, чым раней і карысталіся турысты. Цяпер гэта забаронена. Раз што гэта нацыянальны парк, а два небяспечна, не толькі таму, што можна заплысці ў кіпяток, але яшчэ і з-за ядавітых вужоў, якія водзяцца як у большым, так і ў меншым возеры. Дарэчы, гэта адзіныя на Філіпінах вадаёмы з прэснай вадой, у якіх жыве гэты від марскога вужа *Hydrophis semperi* — невялікі, максімальная даўжыня 50-70 сантыметраў, але яго ўкус небяспечны для чалавечага жыцця.

Вада ў большым возеры з-за блізкасці вулкана таксама цяплейшая на некалькі градусаў, чым у іншых месцах, што станоўча ўплывае на багацце жыцця ў ёй. І выкарыстоўваюць гэта жыхары навакolля, якія закладаюць на возеры фермы гадоўлі рыб. Вялікая частка вады загароджаная сеткамі, побач якіх лодкі і правізарычныя домікі на палях. Корм для рыб на фермах моцна забруджвае возера. Улады, аднак, не рашаюцца на іх забарону, рыбагадоўля гэта побач турызму адна з галоўных крыніц утрымання мясцовых жыхароў. А ў беднай краіне кожны грош лічыцца.

На добры лад, сяліцца на выспе пасярод возера Тааль таксама нельга з-за сейсмічнай небяспекі. Тым не менш, пастаянна пражывае там пяць тысяч чалавек (і амаль столькі ж завезеных туды яшчэ іспанцамі коней). Вядзецца пастаянны маніторынг актыўнасці вулкана. Гледзячы, аднак, на паўсюдны на Філіпінах радасны балаган, цяжка нам было паверыць у хуткую эвакуацыю ў час небяспекі. Таму толькі калі вярнуліся на цвёрды бераг, жонка прызналася, што адчувала сябе там вельмі няёмка:

— Штосьці ў гэтай вадзе ёсць. Яна нейкая цёмная, неспакойная, таямнічая. Я ўвесь час баялася, што мы там патопімся.



■ У Банаўэ



■ Са 102-гадовай Ванг Од – найстарэйшай традыцыйнай татуіроўкай



■ Каля Сагады

* * *

На поўначы вострава Лусон расцягнуўся горны ланцуг Кардыльера, зялёныя вяршыні якога дацягваюць амаль да трох тысяч метраў. Наколькі гэтыя горы былі цяжка даступныя паказвае тое, што іспанскія каланізатары за 333 гады ўладання Філіпінамі так і не змаглі заваяваць гэтага рэгіёна. Жыхары Кардыльеры палохалі сваіх ворагаў не толькі мужнасцю ў баі, але таксама адвечным звычаем з'ядаць сваіх ворагаў. *Dziś łowców głów już nie ma, ale tradycja wśród lokalnych ludów jest wciąż żywa,* — так заахвочвае наведаць рэгіён польскамоўны турыстычны даведнік Паскала. Што засталося жывым з гэтай традыцыі — пытанне, з якім мы выправіліся ў Кардыльеру. А вабілі нас туды слаўныя рысавыя тэрасы.

У Банаўэ дабраліся ў пяць раніцы. Не паспелі як след размясціцца пасля ночы ў аўтобусе, як пад'ехаў бус з гатэля. Там адразу прапанавалі нам за дзень абвезці па ўсіх навакольных цудах прыроды і шматвяковай аграрнай актыўнасці чалавека. Прапанова была наколькі атракцыйнай, настолькі і дарагой, прыкладна пяцьсот злотых. На шчасце Ніна ўжо была наведала гэтую мясцовасць, з успомненым Джэфам, ад чаго засталіся ёй цэнныя кантакты. Пазваніла мясцоваму хлопцу з мянушкай Мачэта, які тут жа прыпёрся на сваім матацыкле, разам з сябрам на трохколцы. І абвезлі нас па ваколіцы за дзвесце.

Там мы зразумелі, што значыць філіпінскае бездарожжа ў гарах. Да вёскі Батад, якая славіцца сваімі рысавымі тэрасамі, трэба было дабірацца вузкай, месцамі камяністай сцежкай, раз ці два прыцiскацца да скалы, каб не глядзець уніз. Мясцовыя ў той час спрытна скакалі з каменя на камень і дзіву даваліся марудным турыстам і страху ў іх вачах. Турысты затое хапаліся за сэрца, калі глядзелі гульні дзетвары, якая вывалілася на перапынку са школы і тут жа разбеглася па невялічкім пляцыку над абрывам, пачала гойсаць па дрэвах, голле якіх вісела над некалькіметровай пустэчай. У нас настаўнікі за нешта такое не вылезлі б з крыміналу.

Мачэта, які сам закончыў гэтую школу, толькі смяяўся. На адным з рысавых загонаў паказаў нам двухметровую шкуру вужа. І хутка патлумачыў, што вужы атакуюць людзей вельмі рэдка. У яго ваколіцы здараюцца адзін-два ўкусы ў год.

— Больш небяспечныя людзі для вужоў, — дадаў з усмешкай, — якія вельмі цэняць смак іх мяса.

І тут жа прызнаўся, што яму больш даспадобы мяса сабакі. Удадатак традыцыйна лічыцца, што яно дае мужчынам сілу і мужнасць. Нам ад гэтага зрабілася трохі не па сабе. Тым больш, што раней тое-сёе прачыталі пра мясцовыя традыцыі.

* * *

*Korpus był miejscami spurchlały, a skóra marszczyła się i zwisała płatami, wypełnionymi od wewnątrz przeźroczystą cieczą. Głowa i opuchłe palce wyraźnie zieleniały. To naturalna kolej rzeczy szóstego dnia po zgonie (Tomasz Owsiany, Pod ciemną skórą Filipin)*. Часам нябожчык ляжыць і даўжэй, пакуль не збярэцца ўся расцярушаная па свеце сям'я. Прычым, не ляжыць адзін. Увесь час вакол яго шумна, родныя і суседзі гамоняць, ядуць, крыху моляцца. Усё гэта ў душным, вільготным каляэкватарным клімаце.

Затое пазней астанкі не гніюць у зямлі, а сохнуць у падвешаных на скалах трунах. Прычым, адных хаваюць кладком, іншых седзячы, таму і труны рознай даўжыні і шырыні. Часта заводзяцца ў іх пчолы і, як піша Томаш Аўсяны, мёд іх лічыцца вельмі смачным і чыстым. Наш гід у Сагадзе, аднак, звычаю чышчэння трун з мёду не ведаў.

Сагада лічыцца цэнтрам, з якога найлепш выпраўляцца на экскурсіі па месцах традыцыйных пахаванняў. Але таксама на рысавыя тэрасы, у яскіні, якіх там безліч ці проста на горны трэкінг. Мястэчка надзвычай акуратнае. Паколькі яно на вышыні 1500 метраў, то і клімат больш прыязны еўрапейцам, і прырода больш знаёмая — растуць сосны. Спадабалася таксама тое, што гідаў там здымаецца ў турыстычным цэнтры, дзе адна цана. Ні з кім не трэба таргавацца, ніхто на табе не хоча празмерна нажыцца. Добрая гатэльна-пансіённая база, шмат рэстаранчыкаў са смачнай ежай. З цэлай адказнасцю рэкамендую мясцовы прысмак – лімоннае печыва (*lemon pie*). Можна купіць рарытэтную каву капілювак, якую вырошчваюць у наваколлі і зерне якой, пакуль стане фінальным прадуктам, мусіць прайсці праз страўнік і кішкі мясцовых лісаў.

Нам зноў пашэнціла трапіць на свята мясцовасці. Было гучна і тлумна. Гульні і гандаль адбываліся на некалькіх пляцоўках. Адна з іх размясцілася каля англіканскага касцёла Святой Дзевы Марыі. Хаця восемдзесят працэнтаў жыхароў Філіпін — католікі, то ў Сагадзе, як нам сказаў наш гід, большасць складаюць пратэстанты. Гэта наяўны доказ, што мясцовыя паспяхова бараніліся ад іспанцаў. Першымі місіянерамі, якія не з'елі тубыльцы, былі пратэстанты. Яны не толькі пережылі, але і ўкаранілі хрысціянства, дзякуючы не толькі шчырым малітвам, але і падтрымцы амерыканскіх вінтовак, якія на зломе XIX стагоддзя замянілі на Філіпінах менш эфектыўныя іспанскія.

(працяг будзе)

**Мікола ВАЎРАНЮК**

Фота **Аліны і Ніны ВАЎРАНЮК**

ISSN 0546-1960 22